—*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
8
МАЯ
1992 г.
№ 19 (3637)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





Завуць гэтага чалавека — Антон Янавіч Галімскі. Пра што ўспомніць ён, ветэран вайны і працы, 9 мая, у Дзень Перамогі? Ці пра тое, як у верасні 1939-га ён, салдат Чырвонай Арміі, уз'ядноўваў Заходнюю Беларусь з Усходняй? Ці гады акупацыі, уцёкі ад мабілізацыі ў «самаахову»? Ці настойлівае запрашэнне яго, адзінага работніка ў сям'і, у партызанскі атрад? Ці баі за Польшчу і чырвоную ад крыві ваду Нісы? Ці апошнія дні вайны, якія сустрэў у Германіі?

А можа, ён будзе думаць аб тым, што за ўсе гады працы кавалём у калгасе ён так і не сабраў грошай, каб збудаваць лепшую хату, аб тым, што давядзецца рэзаць карову, бо няма здароўя, каб трымаць яе...

Ці ўспомнім мы ў Дзень Перамогі пра ўсіх іх, салдат апошняе вайны?

Уладзімір ПАНАДА.

SOS!

# У НЕБЯСПЕЦЫ—АРХІВЫ

Так, у небяспецы! Культавыя будынкі, у якіх з чыёйсьці завядзёнкі месціліся яны доўгія савецкія гады, вяртаюцца вернікам, а архівы — на вуліцу. Спадзявацца ж сёння на пабудову новых і спецыяльных памяшканняў не выпадае...

Уласна кажучы, гэтае пытанне і было ў цэнтры гаворкі падчас сустрэчы кіраўніцтва беларускай дзяржаўнай архіўнай службы, саміх архівістаў з навукоўцамі, творчай грамадскасцю рэспублікі, арганізаванай па ініцыятыве Галоўнага архіўнага ўпраўлення Рэспублікі Беларусь. Мела размова вострыя характар, сутыкаліся розныя погляды, але адно не выклікала сумнення: сёння навісла пэўная пагроза і над існаваннем самой архіўнай справы ў суверэннай дзяржаве Беларусь.

Хаця «існаванне», можа, і не тое слова. Існаваць яна, вядома, зможа, а вось працаваць — наўрад. Першая небяспека заключаецца ў тым, што сярод асобных аўтарытэтных кіраўнікоў узніклі сумненні наконт таго, каб дзяржаўная архіўная служба заставалася самастойнай адзінкай: маўляў, лепей далучыць яе да Міністэрства культуры. Архіўнае ўпраўленне выказала нязгоду. І зусім не з-за таго, што тым самым яно трапіць у залежнасць. Не пра ўласныя амбіцыі дбаюць ва ўпраўленні, гэта добра відаць па ягоных канкрэтных захадах. Напрыклад, ГАУ перакананa, што будынак партыйнага архіва былога ЦК Кампартыі Беларусі павінен належаць яму.

Пра гэта шмат гаварылася і ў час сустрэчы, у якой актыўна ўдзельнічала Беларускае таварыства архівістаў. Яно, у прыватнасці, прапануе стварыць Нацыянальны гістарычны архіў з больш чым двух мільёнаў спраў каштоўнай дакументацыі, што мае дачыненне да мінуўшчыны і да сённяшняга дня. Лепшае месца для размяшчэння гэтага архіва — ужо згаданы будынак. Таварыства архівістаў нават распаўсюдзіла спецыяльную заяву, скіраваную супраць далучэння Галоўнага архіўнага ўпраўлення да Міністэрства культуры рэспублікі.

У гаворцы прынялі ўдзел галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі М. Ткачоў, супрацоўнікі Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук Г. Галенчанка, М. Касцюк, А. Літвін, М. Спірыдонаў і іншыя. М. Ткачоў, напрыклад, падказаў яшчэ адно месца захоўвання каштоўных гістарычных матэрыялаў. На яго думку, для гэтага можна выкарыстаць сховішча, створанае ў час будаўніцтва метрапалітэна паблізу будынка колішняга ЦК КПБ.

Выказвалася занепакоенасць, што ў рэспубліцы няма закона аб архівах, не выпускаюцца археаграфічныя выданні, накшталт тых, што выходзілі ў мінулым стагоддзі. Даўно неабходна парупіцца, каб сістэматызаваць шматлікія дакументы па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, якія ёсць у архівах Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны. А хіба лішнім было б мець даведнік «Нямецкія дакументы часоў першай — другой сусветнай войнаў у архівах Беларусі?» Ён спатрэбіўся б не толькі нашым даследчыкам, але і навукоўцам іншых краін, за набыццё яго яны б добра плацілі валютай.

Усім вядома, што сапраўдная архіўная скарбніца для Беларусі—Вільня. У розных установах яе — архівах, фондах, бібліятэках — захоўваецца каштоўны матэрыял па беларускай гісторыі. Неабходна вырашаць пытанне аб вяртанні некаторых каштоўнасцяў, а разам з тым заключаць і спецыяльныя пагадненні паміж Беларуссю і Літвой, якія б тычыліся розных аспектаў карыстання дакументамі.

На жаль, урад рэспублікі часам праяўляе, мякка кажучы, сціпласць у стаўленні да праблем гістарычнай навукі, а калі шырэй — нацыянальнай культуры. Зразумела, цяжка сёння ўсім, але калі цяпер не паруліцца аб захаванні архіўных матэрыялаў, дык заўтра з'явяцца новыя «белыя плямы», пазбаўленне якіх патрабуе яшчэ большых навуковых высілкаў ды і грашовых сродкаў. Можа атрымацца і так, што нешта будзе наогул незваротна страчана.

Пытанням работы архіваў на сучасным этапе была прысвечана нарада кіраўнікоў дзяржаўных архіўных служб і таварыстваў архівістаў СНД, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі амаль усіх колішніх саюзных рэспублік (краіны Балтыі і Грузія прыслалі назіральнікаў). Аб асноўных накірунках гаворкі журналістам было паведамлена ў час прэс-канферэнцыі, што стала ў пэўнай ступені падрахункаваннем яе вынікаў.

Вынікі ж нарады можна звесці да наступнага. Дакументальныя фонды, што захоўваюцца ў дзяржаўных архівах былой Расійскай імперыі і колішняга Савецкага Саюза, непадзельныя. Аднак усе дзяржавы, якія стварылі СНД, а таксама тыя, якія ў яго не ўвайшлі, маюць права на вяртанне фондаў, створаных на іхняй тэрыторыі. Калі ж вярнуць пэўныя матэрыялы немагчыма, даследчыкі павінны мець доступ для іх вывучэння. Пакуль што нічога пэўнага, на жаль, нельга сказаць аб далейшым лёсе галіновых і ведамасных архіваў. Гэтае пытанне таксама чакае свайго вывучэння.

НОВЫЯ ВЫДАННІ

# ...І «ВІТАМІНЫ» ДЛЯ ДУШЫ

Скажыце, пяць рублёў семдзесят пяць капеек — гэта грошы ці не грошы? Пэўна, усё ж грошы. І таму аддаў я іх за танюсенькі часопіс (два друкаваныя аркушы) з апаскай. Цана дагаворная — пазначана на другой старонцы вокладкі, але работнікі «Мінскай пошты», як згаварыўшыся, аднагалосна прыйшлі да думкі — менавіта пяць рублёў семдзесят пяць капеек.

А называецца часопіс «Гаспадыня». Разгарнуўшы яго, я ўжо не шкадаваў, што купіў. Сярод тых, хто гаворыць добрыя словы на дарогу «Гаспадыні» (мітрапаліт Філарэт, старшыня Саюза жанчын Рэспублікі Беларусь Т. Дудко),—і знаёмы воблік народнага пісьменніка Я. Брыля. Хто-хто, а Іван Антонавіч ведае, дзе сказаць сваё слова, а дзе лепей інтэлігентна прамаўчаць.

Заснавальнікі штомесячнага ілюстраванага (пазначана яшчэ і «масавага») часопіса — Асацыяцыя кулінараў Рэспублікі Беларусь і вытворча-камерцыйная фірма «Эўрыка-ЛТД». Як сведчыць загалоўкам свайго звароту да чытача прэзідэнт Асацыяцыі кулінараў Рэспублікі Беларусь Т. Крывеня («Субяседнік для кожнай сям'і»), новае выданне і сапраўды задумана як часопіс для ўсіх.

Найперш, бадай, для жанчын. Часопіс, праўда, не збіраецца падмяняць іншыя, падобныя на яго выданні (скажам, рэспубліканскія «Работніца і сялянка», і «Салон»), ён спадзяецца мець свой твар. Прынамсі, стараецца... з першага нумара. Нездарма Т. Крывеня зазначае: «Патрэбны «вітаміны» і для душы чалавека. Размова, безумоўна, ідзе не пра ідэалогію, тым больш не пра палітыку, якой мы ўсе перакормлены. Мы маем на ўвазе рэчы больш глыбокія, некан'юнктурныя — нашы маральныя і духоўныя каштоўнасці». Пра народныя вытокі, іх трываласць думае Я. Брыль, калі выказвае свае пажаданні: «І хочацца пажадаць, каб яшчэ адзін новы часопіс, з ёмкай і прывабна простай назвай, з цікавасцю і карысцю чытаўся і праз бабуліны акуляры, і быстрэйшымі вачыма руплівіцы мамы, і чыстымі вачанятамі самых дапытлівых і непадкупных чытачак. Каб да ўдзелу ў гэтым удзячным чытанні запрашаліся і мужчыны. Ад дзеда да ўнука».

Пажаданні гэтыя ў пэўнай меры знаходзяць увасабленне ў першым жа нумары. Раздзел для сямейнага чытання «Ля каміна» адкрывае знакамітая С. Станюта — «Веру ў чалавека». Пра дэфіцыт дабра і сапраўднай культуры разважае старэйшына беларускай сцэны, пра тое, што, нягледзячы ні на што, усе мы з гонарам выйдзем з таго эканамічнага тупіка, у якім апынуліся. Тут жа — пазнавальныя матэрыялы, красворд «Перакладзіце на беларускую мову», складзены І. Курбекам, верш Г. Каржанеўскай...

У нумары — народны каляндар на красавік, «Клуб «Здароўе», раздзел «Сад і агарод», «Даведачнае бюро». Ёсць і спецвыпуск для мужчын «Сам сабе майстар». Пададзены матэрыялы так, што з іх лёгка зрабіць невялічкую кніжачку, якая заўсёды будзе пад рукой, а ў ёй — карысныя парады, што спатрэбяцца ці не штодня. Добрая гаспадынька яшчэ і кулінарка. У такім разе — адгарніце раздзел «Смачна есці».

«Гаспадыня» выходзіць на дзвюх мовах — беларускай і рускай. Будзем спадзявацца, што беларускамоўных матэрыялаў з цягам часу будзе ў ёй большасць.

І апошняе. Галоўны рэдактар «Гаспадыні» — Зіновій Прыгодзіч.

**Л-ц.**

# ДАЗВОЛЬЦЕ ПРАПАНАВАЦЬ

Сёння мы стаім перад пытаннем: як і што нам рабіць, каб сапраўды адрадзілася ў жыцці наша родная мова, каб у ёй мелі б патрэбу й апірышча суайчыннікі-беларусы? І прыйшла мне думка: а што калі спалучыць мову і эканоміку? У прыватнасці, што датычыць канкрэтна маёй думкі, гэта выглядала б так: усе прадпрыемствы сплачваюць падатак на агульнадзяржаўныя патрэбы. Гэта — аксіёма.Але тыя, якія вядуць справаводства на якой-небудзь мове, акрамя беларускай, маюць сплачваць на 2—3 працэнты болей. Рацыя тут ёсць. Бо трэба ж дзеля давядзення справаводства да агульнага складніка перакласці яго на дзяржаўную (беларускую) мову. Ну, а гэта патрабуе выдаткаў, затратаў, працы. Вось і было б добра, калі б наш Вярхоўны Савет прыняў адпаведныя рашэнні ў дапаўненне закона аб падатках, тым самым стымулюючы станаўленне роднай мовы на Беларусі.

**А. ГАЕЎСКІ.**

— Не памятаю такіх выпадкаў. А што некалькі разоў школу акружалі немцы і бралі старэйшых хлопцаў для вывазу ў Германію, — такое было.

У пазашкольны час мы з братам пасвілі карову, гулялі. Гульні ў нас былі, трэба сказаць, рызыкоўныя. Адступаючы, нашы падпалілі склад боепрыпасаў пад горадам. Што ўзарвалася, а што і не. І вось прыносім мы ў поле, дзе пасвілі карову, тры бляшанкі з порахам. Адкрываю бляшанку, а з-за майго пляча хтосьці з хлапчукоў вазьмі ды кінь у яе запалку. Як рване! Як дабег, абпалены, дахаты — не помню. Загарнулі мяне ў прасціну — і ў бальніцу. Там і палонныя ляжалі, і проста мясцовыя людзі... Маці пасля расказалі: змазалі мяне ёдам, я ўсю ноч нема крычаў ад болю, а пад раніцу сціх. Паклалі мяне на насілкі і панеслі. Куды — невядома. Ну, маці скеміла і кінулася ў морг. А я там, паміж нябожчыкаў. Памацала — цёплы, жывы! Яна мяне на рукі і дадому. Сама і вылечыла, нават следу апёкаў не засталося.

**— Генадзь Іосіфавіч, а калі вы надумалі стаць доктарам?**

— У 48-м заканчваў я 2-ю беларускую школу. Сябры ў мяне былі вельмі здольныя, на залатыя і сярэбраныя медалі вучыліся. Усе цяпер заслужаныя, вядомыя людзі. Мой лепшы сябар, які выпускное сачыненне напісаў на два сшыткі, надумаўся паступаць у Ленінградскую марскую акадэмію. Я за ім. Маці, даведаўшыся, як загаласіла, як запрычытала — авой, а ў моры патонеш, а магілкі нават не будзе, а рыбы з'ядуць... Ідзі, кажа, на доктара, пры любой уладзе не прападзеш. Паслухаўся я і не шкадую. Ажаніўся з Ірынай, каханнем маім школьным, дзеці выраслі, унукаў чацвёра. Адна толькі мара не збылася — у Кракаў не давялося з'ездзіць.

— ?

— Я ўжо казаў, што вучыўся ў пачатковай польскай школе. Сям'я ў нас была бедная, я заўсёды слінкі глытаў, калі бясплатна кармілі дзяцей, у каго бацькі не мелі хаты. І была ў нас паездка ўсім класам у Кракаў, па тры злотых толькі патрабавалася прынесці. Ды бацька мне трох злотых не даў. Мабыць, не мог аддаць апошняе. Да слёз крыўдна было. Дык мне і цяпер нічога так не хочацца, як у Кракаў паехаць. Здаецца, Кракаў — гэта штосьці незвычайнае!..

**— А як склалася ваша медыцынская кар'ера?**

— Хірургічная практыка ў мяне з 1954 года. Быў галоўным урачом у Маларыце, пасля загадваў хірургічным аддзяленнем у Баранавічах, там і кандыдацкую дысертацыю абараніў. Працаваў намеснікам галоўнага ўрача па лячэбнай рабоце ў нашай абласной. Так што і практычную работу вядаю, і адміністрацыйную.

**— Дысертацыя на якую тэму ў вас была?**

— Узяўся я за вывучэнне падстраўнікавай залозы. Патрабаваліся эксперыменты на сабаках, каб выклікаць у іх запаленне залозы і лячыць уласным метадам. Ва ўмовах Баранавіч справа, я вам скажу, няпростая. Давялося ў аперацыйную перабудаваць свой гараж. І стол дастаў спецыяльны, і лямпу. Чыста, бела... Вядомыя прафесары з Мінска разам з маскоўскім госцем неяк завіталі (у Белавежскую пушчу ехалі, ды машына сапсавалася), дык у іх ад маёй аперацыйнай вочы на лоб палезлі... Абарона прайшла аднагалосна.

**— А сабачкі выжывалі пасля эксперыментаў?**

— Ну а як жа. Мой метад лячэння падстраўнікавай залозы цяпер называецца беларускім.

**— Ці хапае ў вас часу сачыць за палітычнымі падзеямі ў рэспубліцы?**

— Даводзіцца выкройваць. Трэба ж ведаць, што вакол творыцца. Сачу за работай Вярхоўнага Савета, хаця, праўда, не ўсё мне ў ёй падабаецца. Дэпутаты, на маю думку, займаюцца не тым, што патрэбна ў першую чаргу. Галоўнае — каб чалавек ведаў свае правы і каб яны, правы, былі абаронены.

**— Як вы ўспрынялі Закон аб мовах, прыняты ВС два гады назад?**

— Нармальна ўспрыняў. Бо край свой люблю, мову люблю родную. Аднаго хачу — каб усё было сур'ёзна. На жаль, тая частка інтэлігенцыі, якая хоча штосьці зрабіць, намнога меншая за тую, каторая нічога рабіць не збіраецца. Пакуль у кіруючых органах не беларусы — нічога ў нас з беларусізацыяй, лічу, не атрымаецца.

**— Дык жа большасць там і так беларусы.**

— Ага, з тых, што тыдзень трэніруюцца, перш чым тэкст з ліста прачытаць па-беларуску...

**— Што вам пажадаць, Генадзь Іосіфавіч, на заканчэнне?**

— Пажадайце здароўя жонцы маёй, Ірыне Канстанцінаўне, якая ў маі адзначыць круглы юбілей.

**— І ёй, і вам — усяго найлепшага! Дзякую за гутарку.**

**З Г. І. АСКАЛЬДОВІЧАМ**
**гутарыла**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**



# Безназоўныя элегіі

●

Усё праем, усё прадам
І застануся, як Адам,
Не ў раі, а ў пекле голы,
Грэшнік, безнадзейна кволы,
Не змагу прамовіць слова,
Бо наўкол — пе-ра-бу-до-ва:
Чорны рынак, дзікі рок
Аднялі і слых, і зрок
Пра ідэі і надзеі
Нам далдонілі зладзеі
І чыталі ўсім маралі,
Самі кралі, нас — каралі
І нарэшце давялі
Да спустошанай зямлі,
І брыдуць на ўсе бакі
З жабракамі жабракі.

●

Менск — сталіца і Герой,
Кажуць, добра выглядае,
Бо за Урад стаіць гарой
І гераічна галадае.

●

Разбурым усё, давядзем да нуля,
На месцы былога нічога не будзе.
Магчыма, праз век ачуняе зямля,
І势 стануць людзьмі незалежныя людзі.

●

Наперадзе — нічога.
Усё — ў мінулым.
На успамін находзіць
Успамін
Забытым словам,
Нечаканым гулам,
І я, здаецца,
Зноўку не адзін:
Вяртаюцца з нябыту,
Як жывыя,
Вясёлыя, з іскрынкамі ў вачах
Сябры,
І раздарожжы крыжавыя,
І грозныя сузор'і
Па начах.
Знікае ўсё.
Стажары толькі свецяць
І месяц у зеніце малады.
Мінае ўсё на белым свеце,
І пыл заносіць нашыя сляды,
Павольна, непрыкметна — назаўжды.

●

Ні Гімна, ні бою курантаў
Апоўначы болей няма.
Краіну хапуг, спекулянтаў
Свабоднаю лічаць дарма.
Свабод не было і няма.

●

І я жыццё пражыў дарэмна
То ў марах, то у забыцці,
Мне часта сніцца гул турэмны
І трыццаць тры бяды ў жыцці.

Адна другую даганяла,
Штурхала ў вір, збівала з ног,
Аблічча розныя мяняла,
А я разгледзець іх не мог.

Гібеў, і ўсё ж у нешта верыў,
Без веры дня пражыць не мог,
А лёс напаў шалёным зверам,
І нават адступіўся Бог.

Я уставаў з апошняй сілы,
Адольваў гора і тугу,
Скаваны толькі і бяскрылы,
Відаць, падняцца не змагу.

Мая душа наскрозь астыла,
І ўсё знікае пакрысе.
Няхай да матчынай магілы
Мой попел вецер данясе.

●

Ці то на яве, ці то ў сне,
Калі было да болю млосна,
Упоўнач выпаў першы снег
На поле, на шляхі і сосны.
Да ранку, можа, даляжыць.
Хоць горка, але трэба жыць!

●

Дагарае леташняе лісце,
Коцікі ўваскрэслі на вярбе,
Я чакаю ў змроку, як калісьці,
І не дачакаюся цябе.

Ведаю, — не прыйдзеш, а чакаю,
Можа, лёгкім ценем прамільгнеш,
Светлая, як ветразь, трапяткая,
Дзе ж ты так забавілася, дзе ж!

Нават наша хвоя учарнела,
Дзе ад шчасця замiралі мы.
Колькі ж гэта летаў праляцела
Ад тае вясны і да зімы,

Што навек з табою разлучыла,
Што не забываў і не забыць,
Што на сконе веку развучыла
Верыць, спадзявацца і любіць!

Ты ў блакітным ранішнім тумане,
У карунках зорнага святла
Недасяжнай, незваротнай зданню
Над зямлёй бясследна праплыла.

Я, дзівак, твайго шукаю следу
На пачатку кожнае вясны
І прыходжу, каб ніхто не ведаў,
Да тае ўчарнелае сасны.

16-17/IV — 92

●

Нікому не трэба ні вершаў, ні прозы, —
Ад «шчасця» народ і п'яны, і цвярозы.
Ні кніжак не трэба, ні фільмаў, ні песень,
Бо душы раз'ела азызлая плесень,
Галеча і голад, вар'яцкія цэны,
І толькі балююць адны бізнесмены,
Хапугі, дзялкі, махляры, прайдзісветы,
Што нас заклікалі да светлае мэты,
Шыкуюць, гуляюць і смачна ядуць,
І торбу, і кій у старцоў адбяруць.

●

И равнодушная природа.
Красою вечною сиять.

А. ПУШКІН.

Пасля адлігі закруціў мароз,
Ударыла у сцены завіруха,
Шыпшыннік за маім акном аброс
Празрыстым, лёгкім лебядзіным пухам.

Усё нібыта так, як і было,
І будзе так аж да скончэння веку,
Але здаўна на свеце правіць зло,
І неба, і зямля ў палоне здзеку.

Атручаны вада, паветра, суша,
Усё жывое гіне без надзей,
І страшна, што скалечаныя душы
Не лютым д'яблам, а людзьмі ў людзей,

А, можа, сам Люцыфер правіць намі!
Чаму тады глядзеў спакойна Бог!
Як здзекуюцца над яго сынамі,
А засланіць і ўратаваць не змог!

Калі ты ёсць, усемагутны Божа,
Зірні, як мы канаем на крыжы.
Калі сабе мы памагчы не зможам,
Ты злітуйся і нам дапамажы.

А Бог не чуе енк і плач народа
І нам наўрад збавенне прынясе,
А мы і раўнадушная прырода
Знікаем у пакутах пакрысе.

Канчаецца дваццатае стагоддзе
У бойках, у нянавісці, ў крыві.
Апамятайся! І сябе, народзе,
На мір і на любоў благаславі.

●

За вокнамі лютаўскі дождж і слата,
І кожная шыба дрыжыць і слязіцца.
Уласны свой лёс дачытаю з ліста
У белай палаце дзевятай бальніцы.

У дымнай смузе дагараюць агні.
О колькі бяды і пакутаў на свеце!
Бальніца трызніць у начной цішыні,
І толькі у моргу агеньчыкі свецяць.

●

З вёскі ў горад перабеглі
Маладыя назаўжды,
А на фермах, як у пекле,
Гнуцца бабкі і дзяды.

Дзе ні гляну, — ўсё не тое:
Горад чэзне і сяло.
Кажуць: «Лепш бы пры застоі
Жыць, хоць волі не было».

●

Мароз і снег. Над горадам дымы,
І сонца заімглёнае ў зеніце.
Лютуе люты зноў, ды мы
Заблыталіся у пякельным быце.

Узлёт паэзіі, высокі дух
Здрабнелі, захлынуліся ў нястачах,
Святы агонь душы амаль патух
І часам тлее у жалобным плачы.

Падвопытны народ, амаль распяты,
За што табе такі пакутны лёс!
Твой боль, твае цяжкія страты
Не вытрываў бы нават і Хрыстос.

Ні Ён, ні Бог за нас не заступіўся:
Амаль стагоддзе — меч над галавой.
Што ў барацьбе з народам не ступіўся,
І вецер пахне свежаю крывёй.

Калі ж пазбавімся ад вечнай мукі!..
Мароз і снег. Над горадам дымы...
Хоць бы збавення прычакалі ўнукі,
Якога ўжо не прычакаем мы.

●

«Госпадзі, памілуй, Госпадзі, памілуй!»
Молім Бога ўсё часцей.
А Ён з пялёнак да магілы
Сваіх не мілуе дзяцей.

●

Магчыма, гэта мой апошні снег
Завеяў сцежкі і чужую дачу,
І цяню, што дарогу перабег,
Вядома, што нічога я не значу.

Самому крыўдна, што жыццё пражыў,
Не ведаючы, што такое святы,
Быў двойчы пад крыжом і на крыжы
Зняважаны, знявечаны, распяты.

Цярплю, бо распінаюць мой народ
Дзялкі і прайдзісветы так старанна,
І сорамна, што ўжо каторы год
У свеце нас завуць «Абсурдастанам»,

Бо выпаў нам такі няўмольны лёс, —
Жывем, нібы праклятыя, на свеце,
Начамі захлынаемся ад слёз,
І дзівімся, адкуль бяруцца дзеці.

Нарэшце зразумелі:
Столькі гора
Прынеслі нам Кастрычнік і «Аўрора».

15/11—92
9-я бальніца.

●

Як ні горка, а прыйшла вясна
І не зважае на мае праблемы,
Ужо дыміцца ў полі баразна.
І прадаюць на рынку хрызантэмы.

Трыпутнік ледзьве выбіўся з травы.
На луг наводзіць лотаць пазалоту,
Ляцяць высока ў небе жураўлі
На апусцелыя балоты.

Куды іх крылы лёгкія нясуць,
Нібыта самагубцаў без звароту!
Яны смяротны пыл не атрасуць
У зоне з указальнікаў і дроту.

Хацеў парадавацца сонцу і вясне,
А здань бяды цікуе ля парога.
Канае дзень. Наяве і у сне
Прыходзіць за трывогаю трывога.

●

Ашуканы зноў народ
Тымі камуністамі,
Што зрабіліся за год
Усе капіталістамі.

## Празаічная вясна

«Вясновы дзень, — гавораць, —
корміць год»,
Я ўспамінаю ісціну старую.
Такой парою сеяў мой народ,
Цяпер штодня крычыць і дэманструе.

Пасеем нешта, нешта прарасце
І паталаніць дужым і старанным,
А не адвечнай «беднаце»,
Што сее тут, а жне за акіянам.

Не да гаворак, мітынгаў і сну,
Пакуль жывем пад мірным небам,
У полі будзем сустракаць вясну,
А восень не чужым, а ўласным хлебам.

10/IV—92

З ПОШТЫ АДДЗЕЛА МУЗЫКІ

# УСЁ ДОБРА, АЛЕ...

Расказаць я хачу пра народны хор ветэранаў вайны і працы Палаца культуры прафсаюзаў Беларусі, пра наш хор. Нам — 33 гады, мы з'яўляемся лаўрэатамі колішніх усесаюзных і рэспубліканскіх конкурсаў і фестываляў мастацкай самадзейнасці. Геаграфія нашых канцэртаў вельмі шырокая: спявалі ў Маскве, Ленінградзе, Харкаве ды Кіеве, нас чулі ў Сафійскім саборы ў Полацку, цёпла прымалі ў Рэчыцы, Брэсце, Магілёве, у многіх іншых мястэчках, вёсках Беларусі. І калі ўся зала ўстае, вітаючы нас, мне здаецца, што гаварыць пра нас варта.

Спяваюць у нашым хоры ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, былыя партызаны, ветэраны працы. Ёсць сапраўдныя таленты: Аляксей Недарэзаў складае вершы й нават музыку (ягоная песня «Слухайце хор ветэранаў» заўсёды пачынае нашы канцэрты), Анатоль Сас — байкапісец, чые творы друкуюцца ў часопісах і газетах. Маем нават гурток аматараў паэзіі, якім кіруе Ганна Навумкіна, а ў гуртку гістарычным шчыруюць Клаўдзія Панасенка ды Зінаіда Аўхімовіч. А вось і нашы салісты, якіх добра прымаюць слухачы: Галіна Ратнева, Паліна Іванова, Вольга Братчава, Аляксей Недарэзаў, Анатоль Пятроўскі. А як цудоўна гучаць беларускія песні ў выкананні дуэта Н. Круглік ды П. Івановай!..

Наш мастацкі кіраўнік і дырыжор Мікалай Хвісюк і канцэртмайстры Наталля Таратутка ды Генадзь Мандрус — цікавыя людзі. Яны маладзейшыя ад нас, але тое, як ставяцца яны да нас і да сваёй справы, вартае вялікай любові. На рэпетыцыях Мікалай Мікалаевіч патрабуе ад нас прафесійных адносін да гучання голасу і правільнага вымаўлення кожнай літары. Асабліва гэта датычыць беларускай мовы, якую ён актыўна прапагандуе ў нашай творчасці. Разумеем, як цяжка яму з намі: сярэдні ўзрост удзельнікаў хору 67 гадоў, ды ў кожнага свой характар і. не сакрэт, свае хваробы. Але на рэпетыцыі і канцэрты ходзім, як на свята.

Мы не толькі разам спяваем, але і адпачываем. У нас ладзяцца цудоўныя вечарыны. Летам заўсёды адпачываем на радзіме Якуба Коласа, многа разоў наведвалі музей паэта, наведваліся і да ягонай сястры Марыі Міхайлаўны Бруй, спявалі ёй беларускія песні, а яна нам чытала вершы свайго брата.

Здаецца, усё ў нас добра. Але... Нам вельмі цяжка ў сённяшніх умовах. Добра, знайшліся фундатары, але грошай усё роўна не хапае. Вельмі часта адмаўляемся ад запрашэнняў выехаць з канцэртам. А канцэртаў нашых чакаюць. Напрыклад, у вайсковых падраздзяленнях, дзе нас заўжды сустракаюць вельмі цёпла, маладыя хлопцы бачаць у нас сваіх бабуль і дзядуль і штораз, стоячы, вітаюць авацыяй. А школы, дамы-інтэрнаты для дзяцей, для састарэлых? Там мы выступаем бясплатна, гэта наш грамадзянскі абавязак. Але... самі на канцэртныя пляцоўкі дабіраемся за свае пенсійныя грошы, бо не ва ўсіх ёсць ільготы нават на карыстанне гарадскім транспартам. Ды мы не скардзімся. Проста спадзяёмся, верым, што хто-небудзь зверне на нас увагу і дапаможа нам.

**Ірына ЯХНІНА,**
**вядучая хору.**

ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

# «НАРОД ПАЧЫНАЕЦЦА З КАРАНЁЎ. АД ІХ ЯМУ НАКАНАВАНА ЎЗЫХОДЗІЦЬ НА НЕБА»

## З Уладзімірам КОНАНАМ гутарыць лімаўскі карэспандэнт Юрась ЗАЛОСКА

**Мусіць, не ў кожнага філосафа стане смеласці (досведу!) тлумачыць жыццё — жыццё напрыканцы XX стагоддзя — II тысячагоддзя асабліва... Палоннікі «любові да мудрасці» зніякавела маўчаць, уражаныя тою рэальнасцю, у якой мы існуём. Што ГЭТА: баль перад Апакаліпсісам ці выпрабаванне перад Прышэсцем!**

**Прынамсі, пытанняў болей, чым адказаў. Але пытанні — гэта ўжо прага ідэалу. У гэтым сэнсе мы прагнем Беларусі ідэальнай. Дзе ж яна! Калі найбольш зразумелая для нас сённяшніх—дык перадусім у Максіма Багдановіча. Памятаеце: «Нам з вамі адна дарога... да ясных зор»!**

**Ці даляцім!**

**Даляцім, калі зорам будзе КАМУ свяціць. Бо зоры — над намі, а хто МЫ — унутры: «наскрозь беларусы» ці толькі мейсцамі, у нечым, гледзячы на ўмовы і акалічнасці! Калі так, дык ці не губляем, ці не рассейваем у прасторы тую самую «лепшую частку чалавечнасці» — саміх сябе — беларушчыну!**

**Патрацiўшы саміх сябе, хіба стане моцы ўзнесціся Туды!.. «Ці хваце нам сілы»!**

**Пра наканаванасць духоўнага ўзыходжання кожнаму народу разважае філосаф і культуролаг, літаратурны крытык, загадчык аддзела гісторыі і тэорыі культуры Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны доктар філасофскіх навук Уладзімір КОНАН.**

**Ю. З. Уладзімір Міхайлавіч, скажыце шчыра: у вас няма інтэлектуальнай настальгіі па тых «перабудовачных» часах, калі нашы філосафы, гісторыкі, публіцысты натхнёна перасягалі мысліцельныя стэрэатыпы і шаблоны, нястомна «капалі» ўглыб найперш найноўшую гісторыю, затым — палітычную сістэму, грамадскі лад? Маюцца на ўвазе гады 1988—1990-я, пачынаючы, мабыць, з палемічнага эфекту, які выклікаў адыёзны артыкул аб «прынцыпах» Н. Андрэевай, і заканчваючы, скажам, апошнімі артыкуламі і выступленнямі А. Д. Сахарава?**

**У. К.** Інтэлектуальная настальгія, калі толькі я правільна разумею гэтую з'яву, ёсць вынік нейкай асабістай страты, у дадзеным выпадку паніжэння духоўна-творчай актыўнасці. Але я належу да таго пакалення беларусаў, дзяцінства якіх прыпала на ваенныя і пасляваенныя драмы, маладосць — на «эпоху» сталінізму, а сталасць — на «застойныя гады». А гэта значыць, што нас хацелі пазбавіць ініцыятывы, выкрасліць з ліку чыннікаў гісторыі. Ва ўсякім разе тых, хто не здолеў дапасавацца да пануючых структур, а тым больш, калі не захацеў такога гонару. Уся надзея нашая ўскладвалася на пазнанне, што, як вядома, робіць людзей свабоднымі. Культ школы, кнігі, літаратуры, універсітэта — вось што было нашым Богам і нашай малітвай.

«Сутнасць ісціны ёсць свабода», — сказаў неяк Мартын Хайдэгер, паўтарыўшы тут, праўда, Гегеля. Але затым дадаў: дарога да праўды ідзе праз «адкрытасць» быцця і пазнання. Мы не мелі ні тога, ні другога. Гэта моцна запаволіла нашае духоўнае сталенне; «адкрытае» ж пазнанне прыходзілася набываць доўгім, часам «кантрабандным» шляхам. Для тых з майго пакалення, хто за тлумам не згубіў гэтую «адкрытасць» паводзін, інтэлектуальная настальгія накіравана хутчэй на будучыню, чым на мінуўшчыну. Бо жыцця засталося няшмат, а спраў — бясконцасць. Наканаванае нам ніхто з нашых наступнікаў не зробіць. Такая ўжо логіка «адвечнага кону».

Што ж датычыцца тых «перабудовачных» часоў, то яны, на мой погляд, апраўдаюцца гісторыяй. Як будзе таксама апраўдана пакаленне, якое духоўна і маральна падрыхтавала «перабудову», дэмакратычную рэформу, сацыяльна-палітычную і эканамічную эвалюцыю ад унітарнасці і тыраніі да свабоды і дэмакратыі. Міхаіл Гарбачоў і Андрэй Сахараў — кожны па-свойму выдатныя дзеячы гэтай вялікай эпохі. Іншая справа, што «савецкая» гістарычная драма закончылася катастрофай — распадам імперыі. Замест паступальнай эвалюцыі праз канфедэрацыю дзяржаў да новай эканамічнай і культурнай садружнасці суверэнных народаў.

Як вядома, на хвалях «перабудовы» ўзнік Беларускі народны фронт (БНФ) «Адраджэнне». Яго першая, «віленская» праграма арыентавалася на эвалюцыю і супрацоўніцтва з ініцыятарамі перабудовы — «лепшымі сіламі КПСС». Сёння некаторыя лідэры БНФ сарамліва дэзавуіруюць гэтую праграму. А шкада. Эвалюцыя і канфедэрацыя давалі рэальны шанс коштам найменшых страт ажыццявіць праграмы дэмакратыі, нацыянальнага Адраджэння, сацыяльнай і эканамічнай стабільнасці. Гэтага не захацела партыйна-бюракратычная сістэма. На ёй — віна за няўдачу эвалюцыйнага шляху абнаўлення, за што яна і заплаціла сваім існаваннем як рэальнай палітычнай сілы. А што адбылося? Адбылася «славутая жнівеньская рэвалюцыя», як назваў тыя памятныя падзеі лета 1991 года былы прэзідэнт ЗША Р. Ніксан следам за расійскімі «радыкал-лібераламі». Логіка, ці хутчэй, псіхалогія, Ніксана і ЗША зразумелыя. Але вось Расія пасля вопыту «Вялікай Кастрычніцкай» павінна была б выкінуць «рэвалюцыю» са свайго палітычнага лексікону, замяніўшы яе «эвалюцыяй». Чым закончылася «вялікая рэвалюцыя» 1917 года — агульнавядома. Сёння давайце памолімся разам з героямі «чарнобыльскага» фальклорна-этнаграфічнага фільма Зіны Мажэйкі і Ігара Шклярэўскага «Пранясі, Божа, хмару!»...

Так што, паважаны Юрась Іванавіч, настальгія ёсць, але хутчэй па цывілізаваным пераходзе да цывілізацыі, бо ён не ўдаўся. Што ёсць творчая эвалюцыя, а што — разбуральная рэвалюцыя, прароча пісаў Суліма (Уладзімір Самойла) у філасофскім эсэ «Гэткім пераможаш!» Адсылаю да яго нашых чытачоў. Эсэ надрукавана ў арыгінале па-беларуску ў зб. «Заходняя Беларусь» (Вільня, 1924) і ў перакладзе на расійскую мову ў часопісе «Нёман» (1992, № 1).

А інтэлектуальны пад'ём 1988—1990 гг., на жаль, спадае, бо ён жывіўся хутчэй працэнтамі па «чужым капітале» — раней «отрешенных» (забароненых) ідэй і кніг — айчынных, эмігранцкіх і замежных...

**Ю. З. Чытачы звярнулі ўвагу, што апошнім часам вы нярэдка спасылаецеся на работы М. Бярдзяева. Але перш чым гаварыць пра ягоную творчасць, хацелася б пачуць ваш асабісты «вопыт філасофскай аўтабіяграфіі». Вельмі цікава даведацца, як жа вясковы хлопец з Наваградчыны прыйшоў у навуку філасофію? Ці гэта яна сама — «любоў да мудрасці» — прыйшла да яго?**

**У. К.** Вашае другое пытанне, Юрась Іванавіч, я, здаецца, перахапіў, адказваючы на першае, у эскізе «духоўнай біяграфіі» свайго пакалення. Мне і цяпер хочацца гаварыць больш пра сялянства, вясковых хлопцаў і вясковых дзяўчат, чым пра сябе. Бо мая асабістая роля тут сціплая, малапрыкметная, у той час, як вёска і «вяскоўцы» (А. Шпенглер справядліва называў «сялянамі» таксама вясковую шляхту, памешчыкаў) стварылі культуру. Маю на ўвазе культуру не толькі нашую беларускую, але і сусветную — «сімфонію» нацыянальных культур. Урбаністычнае грамадства творыць не культуру, а сучасныя формы уніфікаванай цывілізацыі...

Не магу не ўсміхнуцца, калі сучасныя гараджане глядзяць на «вясковага» філосафа (вучонага, кампазітара, мастака) як на нейкую экзатычную з'яву. Кім жа яму быць, калі не вяскоўцам? Дарэчы, сучасную амерыканскую «аксіялагічную» сацыялогію (модную «гарадскую» навуку) стварыў расійскі селянін Піцірым Сарокін. Селянін заўсёды быў стыхійным філосафам, паэтам, калі хочаце, нават «сацыёлагам», аб чым сведчыць наш фальклор.

Мая, як вы кажаце, «філасофская аўтабіяграфія» не ўдалася. Курс філасофіі на гістарычным факультэце я слухаў у 1956—1957 гг., калі яе выкладалі бадай што па «Краткому курсу ВКП(б)». Праўда, я тады спрабаваў чытаць «Феناменалогію духу» і «Логіку» Гегеля, «Крытыку чыстага розуму» Канта. Гісторыю Беларусі «вывучалі» па Абэцэдарскаму (сам Лаўрэнцій Сямёнавіч чытаў курс з «антынацыяналістычным» пафасам). Беларускага слова ў гістфакаўскіх аўдыторыях я не пачуў (чыталіся спецкурсы па еўрапейскай і рускай класічных літаратурах, пра нашую родную мову і літаратуру маўчалі).

На экзаменах у аспірантуру па гісторыі СССР (мяне туды запрасілі пасля трох гадоў працы настаўнікам гісторыі, нямецкай мовы і фізкультуры ў сямігадовай школе Вілейскага раёна), я канчаткова развітаўся з гістфакам (чамусьці не паладзіў з Абэцэдарскім у ацэнках Тмутараканскага княства) і паступіў у аспірантуру Інстытута філасофіі АН БССР. Там былы ідэолаг КП(б)Б 20-х гадоў, былы вязень ГУЛАГа Віталь Сярбента арганізаваў групу даследчыкаў гісторыі філасофіі на Беларусі. Я ўзяўся даследаваць літаратурна-эстэтычную думку 20-х гадоў. Прачытаў адраджэнскую газету «Савецкая Беларусь», часопісы «Полымя», «Узвышша», «Маладняк», архівы, кніжкі тагачасныя. А яшчэ—«Нашу Ніву»... Яна канчаткова запраграмавала на родную мову, літаратуру, нацыянальную культуру, «вымыла» мяне ад рэштак універсітэцкай дэнацыяналізацыі.



Фота А. МАЦЮША.

Пасля абароны доктарскай дысертацыі ў Маскве па гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі (1980 г.) была спроба стварыць нейкую беларускую «кроплю» ў моры зрусіфікаванай філасофіі. Аднак пасля выгнання Алега Бембеля з Інстытута філасофіі і права за рукапіс у абарону роднае мовы (кніга выдадзена ў Лондане) і вымушанага расфармавання аддзела эстэтыкі і сацыяльнай псіхалогіі, які мне давялося ўзначальваць, вясной 1986 г. я апынуўся ў ізаляцыі — так сказаць, «эмігрантам» на сваёй зямлі, збіраўся нават перайсці на ваш, паважаны калега, хлеб публіцыста і крытыка... Апошнія мае кніжкі — не па філасофіі, а па фалькларыстыцы і літаратуразнаўстве. Цяпер у навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны паспрабуем «тыпалагічнае» даследаванне беларускай культуры. Хіба што на гэтым шляху пачне складвацца беларуская плынь у філасофіі і культуралогіі? Яе вытокі ідуць ад Скарыны, нацыянальнага фальклору, беларускай класічнай літаратуры, ад «Нашай Нівы», ад філасофскіх прароцтваў Ігната Абдзіраловіча (Канчэўскага) і Сулімы (У. Самойлы), а не ад правінцыйных марксістаў С. Вальфсона, Р. Выдры ды іх эпігонаў.

**Ю. З. Раней прагучала імя М. Бярдзяева. Мне здаецца, сёння найбольш каштоўныя для нас яго думкі аб дыялектыцы нацыянальнага і агульначалавечага («Судьба России»). Але выглядае, што толькі для нашых суседзяў з'яўляецца бясспрэчнай тэза «Творчы нацыянальны шлях і ёсць шлях да ўсечалавецтва...»**

**Чаму так сцвярджаю? Бо наш адраджэнскі рух, натуральна пачаўшыся з нацыянальнай патэтыкі, «выгавору», цяпер аказаўся фатальна раздробленым, у чымсьці штучным, інерцыйным... І на вачах узмацняецца крытыка «местачковасці», «правінцыялізму» адраджэнскага руху. Прычым крытыкі «крыюць» тымі ж «агульначалавечымі каштоўнасцямі». Скажыце, калі ласка, Уладзімір Міхайлавіч, ці мае філасофія адказ на пытанне, якім жа чынам нацыянальныя каштоўнасці трансфармуюцца ў агульначалавечыя? І ці не ёсць такі аксіёматычны падзел (на нацыянальнае і агульначалавечае) штучны, «умозрительный», абстрактны?**

**У. К.** Дарэчы, пра Бярдзяева. Сёння ў Расіі, ды і ў нас, модна адмаўляць усё былое: маўляў, айчынныя філосафы былі пад забаронай, тыя ж Салаўёў, Розанаў, Бярдзяеў... Тут варта і на сябе былых паглядзець, як расійцы кажуць, «ленивых и нелюбопытных». Творы У. Салаўёва я чытаў у студэнцкія гады (другая палова 50-х) у менскіх бібліятэках, праграмныя творы Бярдзяева — па першапублікацыях у маскоўскай ленінскай бібліятэцы. Толькі яго эмігранцкія выданні крыху «прыкрылі» ў спецсховішчах. Для зручнасці я зрабіў ксеракопіі парыжскіх кніг таго ж Бярдзяева «О назначении человека: опыт парадоксальной этики», «Философия неравенства», «Русская идея» і інш.

Адзін з пачынальнікаў хрысціянскай «філасофіі існавання» (экзістэнцыялізму) Мікалай Бярдзяеў — светлая галава сярод выдатных розумаў славянскіх і еўрапейскіх. Следам за Ф. Ніцшэ, С. К'еркегорам ён быў бадай што апошнім пракам гераічнай, «мужчынскай» філасофіі: у тыпалагічным, а не эмпірычным значэнні «мужчынскасці», у тым сэнсе, што яе думка накіравана ў вышыню, ад зямлі да неба, да духоўнасці, аддае перавагу абавязку перад правамі, сутнасці перад існаваннем, таму, што «павінна быць», перад тым, «што ёсць».

(Працяг на стар. 12).

# «Дрэмле памятка дзён...»

Калі адгортваеш першую старонку кнігі Міхася Ткачова «Замкі і людзі» (яна выйшла ў выдавецтве «Навука і тэхніка»), адразу ў памяці ажываюць радкі са знакамітай паэмы Янкі Купалы «Курган»: «На гары на крутой, на абвітай ракой, лет назад таму можа сотня ці болей, белы хорам стаяў, неадступнай сцяной грозна, думна глядзеў на прыволле».

Сапраўды, «на гары на крутой, на абвітай ракой» спаконвечна на зямлі беларускай размяшчаліся палацы-замкі. Асабліва іх шмат было ў сярэдневеччы. «Памяткі дзён» тых — гэта і звесткі аб жыцці нашых продкаў, іх норавах, звычаях, характары, бо замкі перш-наперш — абарончыя збудаванні, а гэта значыць, што беларускі народ менш за ўсё думаў аб ваяўнічых паходах, а клапаціўся аб тым, як адбіцца ад ворагаў, не пусціць іх на родную зямлю.

У замках так шчодра развіваліся шматлікія рамёствы. Патрэбны былі самыя розныя прафесіі — меднікі, ліцейшчыкі, слесары, замочнікі, гравёры... Адным словам, глыбей зазірнуць у гісторыю замкаў — гэта значыць, дакрануцца і да гісторыі нашай нацыянальнай культуры, лепей зразумець народны побыт.

Адзін з даследчыкаў замкаў на Беларусі — М. Ткачоў. Прыхільна была сустрэта яго папярэдняя кніга «Замкі Беларусі», якая пабачыла свет у 1977 годзе. Новае выданне — як працяг ранейшага, з выкарыстаннем крыніц, што раней былі невядомыя ці па нейкіх прычынах у даследаванне не трапілі. М. Ткачоў спасылаецца на шматлікія матэрыялы з архіваў колішняга Савецкага Саюза і карыстаецца фактамі, прадастаўленымі іншымі даследчыкамі.

Багацейшы матэрыял аб'яднаны М. Ткачовым у тры вялікія раздзелы — «Прыватнаўладальніцкія гарады Радзівілаў і арганізацыя іх абароны», «Структура і арганізацыя абароны паселішчаў ва ўладаннях Сапегаў», «Умацаванні дробных і сярэдніх уладальніцкіх гарадоў і мястэчак» Беларусі ў XIV—XVIII стст.». Магчыма, назвы іх занадта навуковыя, але ж і кніга — навуковая. Ды, зрэшты, яе з цікавасцю і карысцю прачытае кожны, хто хоча пабольш ведаць пра нацыянальную гісторыю, пра нашы вытокі і карані.

А. М.

# Стылёвыя пошукі прозы

ГЭТАЯ сціплая на выгляд кніга В. Локун («Да новых вышынь», «Мастацкая літаратура», 1991), безумоўна, прыцягне ўвагу ўсіх, каму неабыякавыя праблемы нашай сучаснай літаратуры. Насцярожыць можа хіба толькі назва — традыцыйна-ўзнёслая, характэрная для мінулай ужо эпохі «дасягненняў», «вяршынь», «здзяйсненняў»... Аднак па змесце і сутнасці літаратурна-крытычныя артыкулы гэтай кнігі вызначаюцца якраз наватарствам, і, вазьму на сябе смеласць сказаць, яна стане прыкметным укладам у распрацоўку жанрава-стылёвых аспектаў сучаснага беларускага літаратуразнаўства.

Вельмі хочацца хоць некалькімі словамі прадставіць чытачам гэтай кнігі яе аўтара — Валянціну Іванаўну Локун. Бо не так часта кожнаму з нас выпадае сустракацца з людзьмі, якія выпраменьваюць харашыню — сардэчнае цяпло і прыязнасць у адносінах да іншых, сціпласць і досціп, а разам з тым маюць зайздросны ўзровень прафесійнасці. Чалавечай абаяльнасцю і адукаванасцю Валянціны Іванаўны захоплены не толькі я і мае калегі, выкладчыкі кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута, з якой супрацоўнічае гэтая даследчыца.

Каб змог чытач па-сапраўднаму ацаніць працу В. Локун, я павінна сказаць, што Валянціна Іванаўна, на жаль, цяжка хворая. Бязлітасная хвароба абмежавала яе магчымасці самастойна перамяшчацца, хадзіць. Але фізічная нямогласць цалкам кампенсуецца духоўным багаццем і знешняй прывабнасцю гэтай жанчыны, якая, нягледзячы ні на што, умее жыць змястоўна, у гармоніі са светам, беспамылкова знайшоўшы ў ім сваё месца і прызначэнне.

У кнізе В. Локун «Да новых вышынь» даследуюцца стылёвыя асаблівасці сучаснай беларускай прозы. У першым, найбольш аб'ёмным раздзеле «Быкаўская праўда вайны» пераканаўча прасочваецца станаўленне стылю пісьменніка, пачынаючы з аповесцяў 60-х гадоў і да апошніх твораў. Здавалася б, пры пастаяннай пільнай і актыўнай увазе крытыкі і літаратуразнаўства да творчасці В. Быкава цяжка сказаць у гэтым плане нешта сваё, арыгінальнае. Але даследчыцы ўдалося асэнсаваць творчасць В. Быкава не толькі ў кантэксце сучаснай беларускай ваеннай прозы (І. Пташнікаў, В. Казько, Б. Сачанка), але і рускай і ўкраінскай (В. Гросман, К. Сіманаў, А. Ганчар, Ю. Бондараў, Р. Бакланаў, В. Кандрацьеў, Б. Васільеў і інш.). Гэта дало магчымасць асабліва выразна выявіць сугучнасць і непаўторнасць быкаўскіх твораў. Пры гэтым даследчыца заўважае тыпалагічнае (структурнае і агульнамастацкае) падабенства твораў В. Быкава, Ю. Бондарава і Р. Бакланава. Такі кантэкстуальны аналіз дазволіў В. Локун прасачыць і вызначыць характар стылёвых пошукаў В. Быкава, пра што абгрунтавана і доказна гаворыцца ў кнізе.

Характарызуючы мастацкія асаблівасці першых аповесцяў В. Быкава, В. Локун сцвярджае: «Стыль твораў В. Быкава мае трагедыйны характар і трагедыйнасць гэтая не знешняя, падзейная, ...а галоўным чынам унутраная, заснаваная на рэзкім сутыкненні характараў, глыбокім псіхалагізме... аўтар даследуе псіхалогію гераізму і сацыяльна-псіхалагічныя вытокі баязлівасці, для яго важны не столькі «адкрыты» канфлікт, што вырашаецца ў непасрэдным проціборстве з ворагам, колькі «схаваны», унутраны, які ўрываецца ў сферу маралі, дзе складана і кожны раз па-асабліваму сутыкаюцца самыя розныя пачуцці, перакананні, каштоўнасныя арыенціры».

Прасочваючы адметнасць і станаўленне творчай манеры В. Быкава, даследчыца безумоўна мае рацыю, калі сцвярджае, што аповесці другой паловы 70-х гадоў («Воўчая зграя», «Яго батальён») маюць пэўныя структурныя і мастацкія адрозненні ад папярэдніх — «Сотнікаў» і «Дажыць да світання» і тым больш ад яшчэ ранейшых — «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета». Разумеючы ўсю ўмоўнасць перыядызацыі, В. Локун выяўляе ўстойлівыя, вызначальныя тыпалагічныя дамінанты аповесцяў В. Быкава, адзначаючы, што ў іх «...суседнічаюць і спалучаюцца два стылёвыя пачаткі — аб'ектыўны як рэальнае адлюстраванне вобраза і суб'ектыўны, праз які непасрэдна выказваецца аўтарская ідэя». Глыбокае пранікненне даследчыцы ў свет і дыялектыку твораў В. Быкава дазваляе ёй заўважыць, што стылёвыя элементы творчасці пісьменніка працуюць, як і павінна быць у сапраўднага мастака, на асноўную задуму: «...сюжэт лаканічны і пранічна скандэнсаваны — аўтар імкнецца ўвесці ўсё новыя і новыя дэталі, павароты, якія на вайне ніколі не здаюцца незвычайнымі і нечаканымі (у вайны свая логіка, яна—алагічная), каб яшчэ раз праверыць характар чалавека, высветліць яго да канца: а раптам не вытрымае, адступіцца, зробіць не тое, што можна падвесці пад самую высокую рысу грамадзянскасці і чалавечнасці?» Даследчыца слушна даводзіць, што такім чынам у апавядальную эпічную канву твораў В. Быкава ўводзіцца ідэйна-ацэначны або асэнсавальна-ацэначны элемент, які з'яўляецца істотным і вызначальным у творчай манеры гэтага пісьменніка.

На старонках, прысвечаных даследаванню аповесці «Сотнікаў», чытач зверне ўвагу на псіхалагічна заглыбленае аўтарскае прачытанне вобразаў Сотнікава і Рыбака. Пры гэтым даследчыца аперыруе паняццем «ідэі–сілы», якое дазваляе ёй дакладна, трапна і лаканічна сфармуляваць асноўную думку гэтай аповесці: «Ідэя супрацьпастаўлення, адзінаборства сілы фізічнай, абмежаванай, і духоўнай, бязмежнай». Слушна заўважаецца, што проза В. Быкава ідзе па шляху ўсё большага спасціжэння складанасці ваеннага быцця і чалавечай душы. Слушна адзначаецца, што ў апошні час В. Быкаў якасна па-новаму даследуе ваенны быт і характар чалавека. Захаваўшы ранейшую аналітычнасць, проза яго стала больш шматграннай, бо пісьменнік звяртаецца да мастацкага асваення глыбінных пластоў жыцця, дзе супярэчліва пераплятаюцца простае і складанае, выпадковае і заканамернае, гісторыя і сучаснасць. («Кар'ер», «Аблава»). Аналітычны стыль В. Быкава, падагульняе В. Локун, — з'ява прыкметная не толькі ў беларускай, а ва ўсёй сучаснай літаратуры. Яго мастацкі вопыт у пэўнай меры вызначае і ўплывае на сучасны літаратурны працэс.

Другі раздзел кнігі В. Локун «Эпапея — гэта народ» прысвечаны назіранням і аналізу творчай манеры І. Чыгрынава, пачынаючы ад малой прозы і ўключаючы тры сюжэтна звязаныя раманы — «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужынцы».

Разгляд творчасці і гэтага пісьменніка такі ж грунтоўны, доказны і слушны. Ужо малая проза І. Чыгрынава (зборнікі «Птушкі ляцяць на волю», і «Самы шчаслівы чалавек»), заўважае даследчыца, дала ўсе падставы гаварыць пра пісьмен-

# Загляні за люстэрка

Нехта з разумных людзей параўноўваў раман з люстэркам, што праносяць па дарогах жыцця. Чамусьці заўсёды пры гэтай згадцы ўяўляецца купка людзей, што валакуць авальнае цуда па выбітым гасцінцы, месячы спрадвечны дарожны пыл. А ў загадкавай амальгаме шкла адлюстроўваецца смуга нябёс і бруд вечнага людскога шляху. І гэтак жа заўсёды ўзнікае пытанне, а чым жа адлюстроўваецца тое, што не трапляе ў сферу люстэрка, што адбываецца за самім люстэркам ці ў свядомасці тых, хто лёсам асуджаны на гэту сізіфаву пакуту? Але што там можа адбыцца, тым больш значнае, вартае, сур'ёзнае, убаку ад магістральнай дарогі? Так сабе. Хутчэй за ўсё нейкая бывалька, не вартая ўвагі казачка. А казачак мы за свой век наслухаліся столькі, што выпрацавалі ўжо сапраўдны імунітэт да іх. Нават дзеці іх не ўспрымаюць, гадуючыся на відэаказках пра Тэрмінатара ды прэдатара.

Ды і самі цяперашнія казкі сталі нейкімі дзіўнымі, незразумелымі. Раней было ўсё вельмі проста. Жылі-былі сабе добрыя людзі, зямлю аралі, жыта сеялі, дзяцей гадавалі. Тады з'яўляўся герой, што вяртаў парушаную справядлівасць і аднаўляў звыклы бег жыцця. Праўда, і сябе пры гэтым не забываў. У залежнасці ад сумлення і ўмення то забіраў сабе цмокаў палац, то каралеўства, то прынцэсу і г. д.

У цяперашніх жа казачных краінах, у адну з якіх запрашае нас В. Казько, жывуць па-іншаму. Хаця, калі азірнуцца назад, можна ўбачыць і даволі аўтарытэтныя аналогіі. У свой час адна казачная гераіня зрабіла вельмі цікавыя назіранні, што значна ўзбагацілі нашыя ўяўленні аб свеце і ўсім тым, што ў ім адбываецца: «Упала ў мора — можна паехаць па чыгунцы», «Трэба бегчы як хапае сілаў, каб застацца на месцы», «Два яйкі каштуюць меней, чым адно». Таму нам вельмі лёгка паверыць у трусіка з гадзіннікам у камізэльцы, вусеня, што курыць кальян, галаву Чэшырскага ката і г. д. Прымаючы падобную ўмоўнасць, лёгка паверыць, што ў адным калгасе жывуць і працуюць Кагановіч, Берыя, Сталін, ёсць свой ЦК, куды героі ходзяць, як на работу, жыве Дзева-Марыя. Ну, няхай не тыя самыя, не сапраўдныя. Ну і што? Не ў гэтым справа, і тым больш не ў імені. Бо нават пачуўшы нейтральнае імя згаданай вышэй гераіні, другі герой (Шалтай-Балтай) назваў яго дурнаваценькім і запытаў, што яно значыць. Бо кожнае імя, лічыць ён, павінна нешта значыць. Яго імя, напрыклад, выяўляе выключную і непаўторную яго сутнасць. Гэтым жа самым могуць пахваліцца і нашыя героі, сутнасць імёнаў якіх будзе раскрывацца на працягу твора, пачынаючы ад гратэскных замалёвак (Гога нарадзіўся ў Грузіі, гадаваўся на Беларусі, рабіць і піць пачаў у Расіі), да пераасэнсавання класічных вобразаў.

«Ва ўсім ёсць мараль, трэба толькі яе знайсці», — сцвярджала Аліса. У яе краіне, незвычайнай і фантастычнай, перакуленай і пераніцаванай, мараль засталася нязменнай, як і на працягу многіх вякоў. У казачнай краіне В. Казько мараль, як і люстэрка, у якім яна адлюстроўваецца, вельмі часта становіцца толькі сваім цьмяным адбіткам ці наогул аддаленай выявай. І таму дарэмныя спробы шукаць яе ва ўсім. Тым больш, наўрад ці хто захоча трапіць у такую сучасную казку, дзе ўсё жыве невядома па якіх законах. Узыходзіць сонца, але не нясе яно радасці людзям. «Сам Бог забыўся на іх, закінуў на гэтую зямлю і пакінуў, пайшоў вяршыць свае боскія справы». Таму «чалавек усяго толькі кватарант на роднай зямлі без права прапіскі і валодання ёй». Ды і не жыве ён, па сутнасці». Бо «нейкае жывёльнае веданне пераходзіць на людзей», і таму пачынаеш уяўляць чалавека як нейкую жывёліну еху. І нават, як Гулівер у падарожжы ў краіну гуігнгнмаў, большую спагаду маеш да высакародных няшчасных звяроў. І, згадваючы славутае, што «чалавек — не апошняе слова прыроды» (Г. Уэлс), не здзіўляешся дванаццаці мёртвым дзікам у меліярацыйнай канаве. Бо і людзі, якіх вядзе Міша Мечаны, блукаюць нават у роднай вёсцы, не пазнаючы тое, што некалі было родным. Воўк, шэры добры ваўчок, які заўсёды дапамагаў чалавеку, нёс на сваёй шырокай спіне да шчасця, становіцца злоснай пачварай, што крывава помсціць чалавеку. І нават сабакі ўжо не служаць чалавеку, а пераўтвараюцца ў ваўкоў.

Віктар Каваленка, аналізуючы купалаўскую сімволіку, адзначаў, што там «паварочваюць жыццё навыварат, дзе таксама ёсць нейкая логіка, але логіка страшная». Ці не таму мяняецца нават успрыманне дзіцяці? Бо ў далёкіх заранках мы бачым ілюмінатары лятаючых талерак, у ступе нашай роднай Бабы-Ягі — фатонную ракету, у звычайным павуку-крыжаку — госця з будучага. Зразумела, што пасля такой цытаты — «Дзед каля мёртвай яблыні з нежывымі яблыкамі аберагаў ад мёртвых неспажыўных гусей таксама мёртвае атрутнае жыта, старая варыла варэнне з тых мёртвых яблык, — палескія атамныя Адам і Ева часоў перабудовы і галоснасці»—дзіця, што чытае пра прыгоды Пакацігарошка, у зачараваным незвычайнай прыгажосці лузе і сакавітым яблыку, што можа разарваць добрага малойца, убачыць не пракуды жонак змея, а зусім рэальны ўплыў Чарнобыля. «Напілася кнігаўка — і сканала».

«А ураджаі ўпалі таму, што асушылі пінскія балоты», — гаварыў у свой час герой «Палаты № 6». А можа, і на самай справе ісціну ведае толькі дурань Іван. Невыпадкова нядаўна ў перыёдыцы параўноўвалі нас са славутымі шыльдбюргерамі. Пэўныя паралелі з жыхарамі казачнага нямецкага гарадка лёгка ўбачыць і ў В. Казько. Так, адну з вёсак калгаса ён насяляе былымі немцамі. Праўда, ён адзначае, што «мы—не немцы, мы няздольныя на арганізаваны беспарадак». Але гэта толькі так, для блізіру. Бо шыльдбюргеры, калі, ратуючыся ад ката, спалілі ўвесь свой горад і разышліся па белым свеце, не маглі не трапіць да нас. І, відаць, працавалі па сваёй асноўнай спе-

---

Віктар Казько. «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел». «Полымя», 1991, № 9.

ніка як пра апавядальніка з эпічным бачаннем і ўспрыманнем, з эпічным светаадчуваннем. Суб'ектыўны пачатак у прозе І. Чыгрынава «ледзь пamечаны», ён больш падразумяваецца — «...у інтанацыі, і адценні, рытме, у пафасе, што выражае аўтарскі погляд і волю, і надае зусім аб'ектыўнаму малюнку непаўторны індывідуальны і «суб'ектыўны характар». Чыгрынаў-рэаліст як бы пераконвае чытача ў аб'ектыўнасці, у жыццёвасці адлюстраванай з'явы праз канкрэтныя бытавыя дэталі, дакладны псіхалагічны малюнак». Аднак устаноўка на аб'ектыўнае, эпічнае адлюстраванне жыцця, падкрэслівае В. Локун, не перашкаджае пісьменніку выходзіць «у прастору духоўнага жыцця, пранікаць у псіхалогію герояў». У раманах пісьменніку ўдаецца знітаваць многія патокі народнага жыцця «адзінай мерай быцця, усеагульнай сувяззю з'яў — ад гістарычна-сацыяльнага да інтымна-псіхалагічных рухаў чалавечай душы».

Зусім слушна даводзіць В. Локун, што ў раманах І. Чыгрынава слабая напоўненасць падзейнага дзеяння кампенсуецца дзеяннем унутраным, псіхалагічным, бо пісьменніку ўдаецца глядзець не толькі «звонку» на сваіх герояў, але і «знутры» — фіксаваць іх светаўспрыманне, духоўныя і маральныя погляды.

Пры безумоўнай дасканаласці і грунтоўнасці даследавання жанрава-стылёвых асаблівасцяў раманаў І. Чыгрынава часам залішне адцягненымі і ненатуральнымі здаюцца некаторыя параўнанні і паралелі, у прыватнасці, з «прычынным мысленнем» Л. Талстога.

Тэарэтычныя выкладкі даследчыцы, асабліва ў другім раздзеле кнігі, «разлічанай на шырокае кола чытачоў», часам уяўляюцца інтэлектуальнымі практыкаваннямі нават для адносна дасведчанага чытача. На с. 127 чытаем: «Для стылю І. Чыгрынава характэрна, калі «апавяданне эпізоду» пранізваецца яго даследваннем і падводзіцца да абагульнення, якое ў сваю чаргу набывае форму канкрэтнасці і развіваецца ў выяўленчы вобраз...» Далей даследчыца, абапіраючыся на змест твора, спрабуе растлумачыць, што гэта азначае...

Схільны да строгай тэарэтычнай вызначанасці, лагічнай завершанасці і пераканальнасці даследчык-аналітык, а менавіта такое ўражанне аб аўтары пакідае гэта кніга, В. Локун у метадалогію свайго даследавання шырока падключае вопыт папярэднікаў і сучаснікаў, калег-літаратуразнаўцаў, што яшчэ больш паглыбляе яе ўласныя вывады, дазваляе ўзняцца на высокі тэарэтычны ўзровень у навуковых пошуках. Але часам узнікае ўражанне, што дарэмна В. Локун «давярае» іншым літаратуразнаўцам, бясспрэчна згаджаючыся з імі. Напрыклад, пры даследаванні вобраза Дзяніса Зазыбы В. Локун без агаворак згаджаецца з вельмі праблематычнай па сённяшнім разуменні ацэнкай гэтага героя С. Андраюком, сутнасць якой у тым, што Зазыба — «якасна новы тып чалавека з народа. Ён увасабляе тую сілу, якую прынеслі ў народ бальшавікі». (С. Андраюк. Традыцыі і сучаснасць. Мн., 1981). Далей даследчыца гаворыць аб тым, што Зазыба прадстаўнік «масы», сын свайго часу... Здаецца, слушна, але толькі ў пэўнай ступені, бо вобраз Дзяніса Зазыбы «залішне» багаты і шматмерны, каб быць прыпісаным толькі да канкрэтна-гістарычных. У ім скандэнсавана і ўвасоблена найбольш народнага, і перадусім, ён — носьбіт народнай маралі, духоўнасці, свядомасці (а не бальшавіцкай ідэалогіі), якія і абумоўліваюць яго паводзіны. І пратэстуе ён супраць фашызму не таму, што бальшавік, а таму, што патрыёт. (Чубар у значна большай ступені ўвасабляе «бальшавізм»). Пра гэта слушна гаворыць далей і сама літаратуразнаўца.

Кніга В. Локун уяўляе сабой даследаванне асаблівасцяў мастацкай формы, у прыватнасці стылёвых структур твора. І гэтая пільная ўвага да «фармальных» элементаў часам настолькі абсалютызуецца, што выпадае з-пад увагі другі, вельмі важны элемент — змястоўнасць формы. Захапленне фармальнымі пошукамі і ігнараванне выяўленчай функцыі формы пакідаюць у такіх выпадках уражанне самамэтнасці і схематычнасці літаратуразнаўчых знаходак. На с. 106 чытаем: «Чыгрынаўскім раманам уласціва шырокая раманная структура, дзе процістаянне Зазыбы і Чубара праяўляецца як істотная, неабходная частка, як адна з ліній развіцця эпічнага сюжэта». Наўрад ці будзе дастатковым і мэтазгодным абмежавацца канстатацыяй сюжэтна-фармальнай функцыі гэтага процістаяння, не давёўшы да чытача, што за ім перш за ўсё трэба бачыць драматызм, супярэчлівасць першых год той вайны. Дарэчы, гісторыі ўзаемаадносін гэтых герояў удзяляецца вялікая ўвага, яна прасочана паслядоўна і доказна.

У раздзеле «Стылёвая шматграннасць прозы Б. Сачанкі» В. Локун прасочвае эвалюцыю творчай манеры гэтага пісьменніка ад аб'ектыўнага, «монафанічнага» да «поліфанічнага, суб'ектываванага пісьма». У гэтым плане падрабязна аналізуюцца стылёвыя структуры апавяданняў Б. Сачанкі «Дзік-бадзяга», «Не, не ўсё роўна», «У хаце трое», «Сон», «Адведкі» і іншыя. Б. Сачанка, слушна зазначае В. Локун, спрабуе стварыць актыўны, дзейсны характар. Ён, як і В. Быкаў, даследуе катэгорыі зла і дабра, жорсткасці і гуманнасці. Яго ўлюбёны кампазіцыйны прыём — перапляценне мінулага і сучаснага. Адсутнасць асабістага «падзейнага» вопыту вайны кампенсуецца эмацыянальным. (У вайну Б. Сачанка быў хлапчуком). Пры аналізе аповесці «Пакуль не развіднела» цікава і доказна прасочваецца выяўленчая функцыя моўных структур: няўласна-простай мовы, простай, маналогу, індывідуалізаванай мовы персанажаў, аўтарскай мовы, сінтаксічных канструкцый. Ад твора да твора прасочвае даследчыца «ўзмацненне суб'ектывацыі пісьма, паглыбленне аналітызму і псіхалагізму», імкненне Б. Сачанкі да стылёвай шматслойнасці.

Увогуле, аналізуючы стылёва-выяўленчыя аспекты ў творах В. Быкава, І. Чыгрынава і Б. Сачанкі, даследчыцы ўдалося ўбачыць у іх многа агульнамастацкага і агульначалавечага, і разам з тым пераканаўча паказаць асабовасць, прывабнасць, змястоўнасць творчай манеры кожнага з іх, дамінуючыя складаныя іх стыляў.

У раздзеле «На шляху да сінтэзу» прасочваюцца не толькі жанрава-стылёвыя, але маральна-этычныя і філасофскія пошукі ў сучаснай беларускай прозе. Грунтоўна разглядаецца раман «Зеніт» І. Шамякіна. Аналізуючы раман «Вазьму твой боль» гэтага ж аўтара, даследчыца ўказвае на жанравую сугучнасць твора беларускага пісьменніка з раманам Ю. Бондарава «Бераг».

Аналітычным, інтэлектуальным не без падстаў называе аўтар раман В. Казько «Неруш», знаходзячы ў ім кропкі судакранання з «Белым параходам» Ч. Айтматава, «Развітаннем з Мацёрай» В. Распуціна. В. Локун вызначае шэраг вострых праблем сучаснасці, што закранаюцца ў раманах П. Місько «Градабой», В. Карамазава «Пушча», В. Гігевіча «Доказ ад процілеглага», Л. Дайнекі «Футбол на замініраваным полі», А. Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік», Я. Радкевіча «Сутокі дзён». Даследчыцы ўдалося ўбачыць і паказаць чытачу, што ў сучасным беларускім шматжанравым рамане «на паверхню вылучаецца менавіта мысліцельны, філасофскі пачатак, які дамініруе». Праблемы ўзаемадачынення чалавека і гісторыі, трагічнасці лёсу і трагічнасці часу знаходзяць адлюстраванне ў эстэтычнай свядомасці, у тым ліку і ў нашай нацыянальнай літаратуры. Гэтая праблематыка, робіць слушнае падагульненне аўтар, вызначае і пошукі сучаснай беларускай прозы.

Некаторыя раздзелы, абзацы, тэзісы кнігі В. Локун «Да новых вышынь» могуць выклікаць жаданне паспрачацца, зверыць сваё меркаванне з аўтарскім, што толькі падкрэслівае актуальнасць і ў значнай меры наватарскі характар даследавання.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА,**
**дацэнт кафедры Брэсцкага педінстытута.**

**ВІНШУЕМ!**

# Анатолю БАРОЎСКАМУ—50



**12 мая спаўняецца 50 гадоў празаіку Анатолю Бароўскаму. «ЛіМ» віншуе яго з днём нараджэння, жадае новых творчых поспехаў.**

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**



# «Там, дзе бруіцца Іслач...»

**Нарыс Вячаслава Рагойшы, выпушчаны выдавецтвам «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, належыць да рэкламных выданняў. Нездарма пазначаны і заказчык — «Беларускае аддзяленне Літаратурнага фонду СССР», цяперашні Беларускі літаратурны фонд. Ды, зрэшты, важна не тое, як робіцца, а што зроблена. В. Рагойша, расказваючы чытачам пра Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач», які знаходзіцца за сорак кіламетраў ад сталіцы, падрабязна гаворыць і пра знакамітыя навакольныя мясціны.**

**Кожны з раздзелаў кнігі — «Дарога», «Замак на Іслачы», «Ваколіцы», «Ракаў» і іншыя — гэта запрашэнне ў падарожжа. Найперш — запрашэнне тых, хто прыязджае ў «Іслач» з-за мяжы суверэннай Беларусі.**

**Ваколіцы Дома творчасці багатыя на гістарычныя падзеі, многія знакамітыя людзі жылі тут у свой час. Скажам, у вёсцы Пярэжары нарадзіўся «амерыканец» Кастусь Стахоўскі. Амерыканцам яго празвалі за тое, што большую частку жыцця ён правёў у Злучаных Штатах Амерыкі, нават дзве кнігі ў Вільні выдаў пра гэтае жыццё — «Расказы амерыканскага халасцяка» і «Моль тоўстая і моль худая». У Выганічах вядомы рускі пісьменнік-дзекабрыст А. Бястужаў-Марлінскі прымаў удзел у вайсковых вучэннях.**

**А найбольш расказвае В. Рагойша пра сваё роднае мястэчка Ракаў, вядомы гістарычны куток Бацькаўшчыны: «Ракаў — старадаўняе паселішча, пра што сведчыць стаянка эпохі неаліту, гарадзішча (мясцовая назва — Валы) і старажытны курган у пойме Іслачы. У афіцыйных дакументах мястэчка ўпамінаецца ўжо ў 1465 г. Валодалі ім паперамена Кежгайлы, Завішшы, Сангушкі, Салагубы».**

**Ёсць мажлівасць пабываць у Люцынцы В. Дуніна-Марцінкевіча і ў Вішневе, якое звязана з імёнамі К. Буйло, П. Бітэля, У. Луцэвіч... Багданава ж — радзіма мастака Ф. Рушчыца. А Гальшаны? Магчыма, і не ўсе ведаюць, што У. Караткевіч, пішучы свой знакаміты раман «Чорны замак Альшанскі», у думках бачыў руіны Гальшанскага замка. Дыханне гісторыі адчуваецца і на вулках Валожына, гэтага багатага на падзеі горада...**

**Кніга «Там, дзе бруіцца Іслач...» напісана з любоўю да зямлі, дарагой і блізкай аўтару з маленства. Яна з густам аформлена і выдадзена, дарэчы, на дзвюх мовах: па-беларуску і ў перакладзе на рускую.**

**АН-ЕВІЧ.**

цыяльнасці — саветнікамі пры князях і каралях. Дык чым мы горшыя за іх? Яны будавалі ратушу без вокнаў і без грубкі, сеялі і жалі соль, вучыліся розуму ў асла, адным словам, ратаваліся глупствам ад вялікага розуму. Але і мы не лыкам шытыя, «дурні ўсёй краіны — яднайцеся». Чалавек, які знішчыў прыроду, прызначаецца яе абаронцам», камуністы ішлі ў паны, паны да камуністаў. Чэкісты перакідваліся ў шпіёнаў, шпіёны ў чэкістаў. Правыя лявелі, левыя правелі, белыя чырванелі». Здабывалі азімыя буракі «Чыкага-4», не баяліся турмы, бо турма ў чыстым, без радыяцыі месцы, хадзілі ў ЦК (цыганскі кааператыў), дзе Карл і Клара вырашалі свае вечныя праблемы — устаўляць ці не каню залатыя зубы. Жахліва? Так. І «беларусы, праўда, жахнуліся, але ціха, як заўсёды».

Хто ж вінаваты ў гэтым? Адкуль «сабачая звычка служыць верай і праўдай немаведама каму і чаму. Кафрослівая вясковая звычка і ў дурасці быць паслядоўным да поўнага ідыятызму?» Дзе той злосны цмок, што ўбіўся ў наша жыццё? І калі ён гэта зрабіў? Але «пытанні задаюцца не для таго, каб на іх адказваць». Ды і часы прайшлі, калі цмокі трапляліся на кожным кроку і герояў, зразумела, было не менш. Гэта купалаўскія героі на пачатку стагоддзя верылі, што толькі трэба знайсці гэтага цмока-ўпыра і ўсё будзе добра. Але цяпер мы ведаем, што гэтага, на жаль, мала. Бо наўрад ці са смерцю цмока супадзе фінал нашай казкі. Ды цяпер мы і не ведаем, якім павінен ён быць. Канцоўкі казак, у адпаведнасці з патрабаваннямі самай перадавой педагогікі, таксама памяняліся, сталі выключна аптымістычнымі, сугучнымі нашаму вясёламу жыццю. Хіба толькі ў запісах Федароўскага ці Сержпутоўскага сустрэнеш у казцы трагічны фінал.

У свой час бабуля, кот і курыца з іншай, не менш вядомай казкі, лічылі сябе паловай свету, прычым лепшай паловай. Героі казкі Казько далёкія ад гэтай думкі, яны наогул не лічаць сябе героямі, хаця, нягледзячы ні на што, душы ў іх светлыя і ўзнёслыя. Але ніхто з іх, нават Лазар і Дзева-Марыя, не стануць светлымі лебедзямі. І ніхто ім не дапаможа. І не будуць спяваць Лазара, але і не вернецца яго душа адтуль, не ўваскрэсне наш Лазар, бо гэтая казачка завершыцца так трагічна. Не прынясуць мільённыя чароды атлусцелых варон мёртвай і жывой вады, бо яны, шырока разявіўшы дзюбы, чакаюць манны нябеснай — «высушанае радыеактыўнымі вятрамі поле, сінюшнае неба разраджаліся жытным дажджом».

І таму невыносна слухаць казку з трагічным фіналам. Лепш паслухаць рэальную гісторыю пра буслоў і Змея Гарыныча, якая спалучаецца з папярэдняй гняздоўем Чорнага бусла сярод трох Ясянькоў, пад якімі застаўся мезенец Лазара. Тым больш, што і мая родная рэчка Гарынь, забруджаная і засыпаная Чарнобылем, па ім завецца. Выратуй і памілуй іх, чорны бусел.

Многа мы чулі на сваім вяку казак, казачак, бывалек. І злых, і добрых, і ніякіх. Бо і жыццё наша як казка: чым далей, тым жахлівей. Але нельга адабраць у чалавека веру, надзею, любоў. І сведчаннем таму героі таленавітых твораў В. Казько.

**Іван ШТЭЙНЕР.**

г. Гомель.

# НЕ ЗАБЫЦЬ НАМ ГЭТА...

**Вобразна — «вузламі памяці» — Максім Танк назваў аднойчы, памятаю, дарогі. Адна з іх прывяла яго да нас, на Другі Беларускі фронт. Восенню сорак чацвёртага ён разам з Міхасём Лыньковым і Аркадзем Куляшовым прыехалі з групай маскоўскіх пісьменнікаў у нашую 3-ю армію генерала А. В. Гарбатава, каб напісаць кнігу «Беларускі паход» — аб нядаўняй у той час аперацыі «Баграціён», у выніку якой цалкам была вызвалена беларуская зямля.**

**Больш як праз сорак сем гадоў мы сядзім з М. Танкам у яго ўтульным рабочым кабінеце, вядзём гутарку пра тую далёкую франтавую восень, і Яўген Іванавіч кажа:**

**— Пра мяне вы, па-мойму, павінны пісаць не шмат, а болей за ўсё пра Міхася Ціханавіча Лынькова. Мы з Аркадзем Куляшовым прывезлі тады толькі па некалькі вершаў, я, напрыклад, «Форт Ружана» напісаў, а Міхась Ціханавіч цэлы цыкл нарысаў...**

**Пытаюся:**

**— Ці была тая паездка, Яўген Іванавіч, «вузлом памяці» вашай з Лыньковым і Куляшовым?**

**— Яшчэ якім!**

**І зноў напамінае, што найбольш значны ён, гэты «вузел памяці», быў у Лынькова.**

**Я яшчэ раз зазірнуў у чацвёрты том збору твораў народнага пісьменніка, перачытаў яго ваенныя запісы, і з новай сілай пераканаўся, якую вялікую працу ўклаў М. Лынькоў у свае франтавыя нарысы. У іх гарачыя пачуцці, палымяны патрыятызм. Раскрыты лепшыя якасці і рысы нашых воінаў. З асаблівай увагай расказвае пісьменнік пра радавых і сяржантаў, дае ім пераканаўчыя характарыстыкі. Застаецца толькі радавацца майстэрству аўтара.**

**У сваёй жа кнізе «Сябры маіх ваенных гадоў» я таксама паведаў пра тых, з кім у розны час звялі мяне франтавыя дарогі. У тым ліку і пра М. Лынькова, М. Танка, А. Куляшова і іншых пісьменнікаў. І заўсёды, калі чытаю верш М. Танка «Форт Ружана», многае бачу быццам увачавідкі:**

**Ты часта ўстаеш перада**
**мной, форт Ружана,**
**Дзе плешчуцца Нараві сінія**
**хвалі,**
**Дзе ноччу і днём бой**
**грымеў несціхана,**
**Дзе шмат мы сяброў**
**пахавалі.**

**Дзвюма строфамі ніжэй паэт як бы перакідвае масток у дзень сённяшні:**

**З тых дзён незабыўных**
**мінулі ўжо годы,**
**Плугамі даўно заараны,**
**А зорка чырвоная ззяе**
**заўсёды**
**Над фортам Ружана...**
**...Ведаю, што пад-над**
**кожным курганам,**
**Ад Волгі да хваляў**
**Балтыйскага мора,**
**Дзе нашай краіны сыны**
**пахаваны,**
**Гараць незгасальныя**
**зоры.**

**Гэтыя апошнія радкі, як бачна з другога тома М. Танка «Вершы і паэмы. 1945—1954», былі ўнесены аўтарам у верш праз сем гадоў пасля вайны.**

**Невыказна рады, што той даўні танкаўскі «вузел памяці» звёў мяне з паэтам на фронце. З той часіны не-не ды і ўспомню пра яго.**

**Рыгор ТАРАСЕВІЧ,**
**маёр у адстаўцы, былы ваенны карэспандэнт газеты 3-ай арміі «Боевое знамя».**

## Пасажыры

У пасажыраў сумкі, валізкі, торбы. Калі пасажыры, спяшаючыся, бягуць да свайго вагона, сумкі, валізкі, торбы ўчаперваюцца ім у рукі і ўпарта іх цягнуць назад.

Калі пасажыры ўладкоўваюцца ў вагоне, сумкі, валізкі, торбы займаюць бесцырымонна іхнія месцы і, робячы іх сваімі вартаўнікамі, не адпускаюць іх ад сябе.

Пасажыры турбуюцца, пасажыры хвалююцца, пасажыры шчыруюць, пасажыры слугуюць, нібы яны—сумкі, валізкі, торбы, а сумкі, валізкі, торбы—праўдзівыя пасажыры.

## На Нямецкай дарозе

Там, дзе адна дарога ўпадае ў другую, да мяне падбягае, аднекуль узяўшыся, нізкі, з кутасікамі ў вушах, настойлівы звер.

Ён ненавідзіць мяне і, здаецца, хоча напасці, і я, каб яго задобрыць, развязваю торбу з ядой і кідаю зверу, што маю з сабою,—кавалкі сала, мяса і каўбасы.

Звер глытае мае пачастункі, і, калі яны канчаюцца неўзабаве, падступаецца да мяне бліжэй—нібыта я даставаў іх з самога сябе і сам я таксама—сала, мяса і каўбаса.

Злева, удалечыні, віднеецца белы горад. У ім жывуць Немцы—іншыя людзі па мове і разуменні, як трэба жыць.

Але, каб трапіць туды, я мушу паразумецца са зверам, а ён усё болей раз'ятрываецца і выклікае ўва мне ўсё большую боязь, усё больш страх.

З другога канца дарогі чуюцца раптам цвёрдыя нейчыя крокі, іх чуем і я, і звер.

Цяпер і відаць ужо: гэта—Немец, і я, не могучы адгадаць, хто ён мне, сябра ці вораг, нібы збавення, чакаю яго наблíжэння, яго прыходу, а звер...

У нерашучасці ён застывае спачатку на месцы, пасля паварочваецца і знікае ў глыбокіх, парослых кустамі, блізкіх равах.

## Крыніца, з якой піў святы

Ад царквы да царквы, ад леснічоўкі да леснічоўкі ідзём з Арабейкам Іванам, напытваючы сцяжыну да той крыніцы, з якой піў святы.

Мы знемагліся, нас паліць смага, але мы адмаўляемся ад піцця, і людзі, бачачы нашу адданасць святой ідэі, шчырае наша імкненне, нам кажуць, кудою ісці.

Апоўдні гарачага дня мы прыходзім да мэты. Крыніца ўвабрана ў зруб, і Іван Арабейка першы, схіляючыся над зрубам, зачэрпвае ў конаўку, што мы знайшлі тут, вады.

Гэта, аднак, не зусім і вада, а—жоўта-чырвоная вадкасць, бы недзе глыбока, адкуль выцякае крыніца, ў падземных нетрах, точыцца бесперапынна нейкая бітва і сплывае гэтакаю крывёй.

Іван Арабейка п'е. І я п'ю, сціскаючы зубы, таксама.

Потым мы будзем хварэць, будзем пакутаваць, але будзем ведаць, што далучыліся да самай сутнасці свету і што пілі з крыніцы, з якой піў святы.

## Маму Тхакур дас

Зазвінелі званочкі, усплёснуліся кімвалы, узнесліся галасы. «Харэ Крышна, Харэ Крышна, Крышна-Крышна...» — творыцца махамантра.

Маму Тхакур дас у аранжавым аблачэнні сядзіць, скрыжаваўшы ногі, і, пакуль раздаецца з тацы прасад, гаворыць: «Мінуліся тыя часы, калі нас можна было палічыць па пальцах, цяпер нас шмат...»

Прысутныя, што прыйшлі на гадзіну сустрэчу, слухаюць, згодна ківаюць галовамі і задаюць пытанні.

А я згадваю тыя часы, калі Маму Тхакур дас быў проста Міша, калі нікога не трэба было лічыць ні па пальцах, ні як інакш, калі кожны быў значны не тым, што знайшлося, а тым, што шукалася, што спасцігалася і што не мела наймення...

І мне шкада тых магчымасцяў і тых часоў.

## Паэзіі пакорлівы ўсе ўзросты

В. У. Івашына мы ведалі, як закаранелага, калі так можна сказаць, тэарэтыка літаратуры са сваім, выразна выяўленым падыходам да яе з'лў. І раптам:

Гэта неба, гэта сонца,  
Гэты светлы далягляд,  
Гэты спеў жыцця бясконцы,  
Гэтых сосен стройны рад...

Хто ведаў, што ў ім, у душы, сядзіць Фет?! Своеасаблівая літаратурная сенсацыя, не менш. Што ж, у літаратуры так здараецца — гэта паэзія сцвярджае свае правы і законы, дзівіць нечаканасцю, свежым поглядам на стары наш свет, пераканальным доказам таго, што ён стары і адначасова заўсёды новы.

Часцей здараецца, што маладыя пачынаюць з паэзіі, а з цягам часу пераходзяць на прозу, публіцыстыку, становяцца крытыкамі-літаратуразнаўцамі. А вось, калі ласка, адваротны выпадак. Абуджаецца, відаць, да жыцця цэлае пакаленне людзей, якія часам, можа, саромеліся (ці часу не ставала) паглядзець, палюбавацца на зорнае неба, або на якую-небудзь зямную сціплую кветку, лічачы гэта не вартым «сур'ёзнага» чалавека занятkам.

Такое трэба вітаць, і я зычу Васілю Уладзіміравічу добра пачуваць сябе на гэтай новай паэтычнай дарозе.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ.**

**Васіль ІВАШЫН**



●

Адна думка ўсё мяне трывожыць,  
Будзіць, не дае начамі спаць,  
Мяне ў край мінулага заводзіць,  
Будучае хоча адгадаць.  
Што ж яе турбуе, непакоіць,  
Што ёй, неспакойнай, так баліць,  
І аб чым яна заўсёды мроіць,  
Без чаго яна не можа жыць?  
Мусіць, хоча зняць з жыцця аковы,  
Мусіць, хоча сілы ўсе прызваць,  
Каб у час наш атамны, суровы  
Красу зямлі маёй ўратаваць.

●

У гэтым свеце далёкім і блізкім  
Адусюль галасы зноў чуваць:  
«Веры страчанай абеліскі  
На магілах былога стаяць».  
І ці прыйдзе ім хто пакланіцца  
І паплакаць, душой спагадаць?..  
Толькі вечнаму можна маліцца,  
Толькі праўду з сабой трэба браць.  
Але як у часовым і тленным  
Зерне вечнасці тое пазнаць, —  
Вось загадка, якую нязменна  
Я спрабую ў жыцці адгадаць.

●

Я ў думках да сябе сягаю,  
Туды, ў глыбіні свайго «я»,  
Дзе сваёй праўдзе прысягае  
Душа — пакутніца мая.  
Яна ўбірае ўсе трывогі,  
І боль, і гаркату жыцця,  
І радасць з дальняе дарогі,  
І ўсплеск гарачы пачуцця,  
І смелай думкі парыванне,  
Што прагне зорнай вышыні,  
І голас вернасці прызвання,  
І чалавечай дабрыні.  
Яна, не ведаючы зморы,  
Хацела б цэлы свет змясціць,  
І ўсе ягоныя прасторы  
Сваёю праўдай ахрысціць.

## Мова родная...

О, мова родная, ты ўсё змагла...  
Твая ў народзе — прыгажосць і сіла,  
Спрадвек ты яго долю сцерагла,  
Ягоныя ўсе скарбы адрадзіла.  
А твае слова з першым пачуццём,  
Што матчынае сэрца ўзрасціла,  
Любіць радзіму, даражыць жыццём  
Мяне яшчэ ў маленстве навучыла.  
І ад калыскі ты мяне вяла,  
Дарогамі жыцця са мной хадзіла.  
Ты вернай спадарожніцай была,  
І радасць, і журбу са мной дзяліла.  
Ты мне дала ўсё тое, што магла,  
Ты мудрасці крыніцы мне адкрыла.  
Ты, мова, свет Купалы зберагла  
І Коласаву праўду падарыла.

## Будучыня

Цябе мы, будучыня, так чакалі,  
Так прагнулі ўбачыцца з табой.  
Цябе мы ў марах нашых гадавалі  
Чараніўцай-незнаёмкай дарагой.  
Для цябе мы вежы будавалі,  
Вышынныя палацы, гарады,  
Саміх сябе табе мы аддавалі,  
Увесь запал наш юны, малады.  
Усё для цябе адной ахвяравалі,  
Усё для цябе ашчадна бераглі,  
І жыцця свайго не шкадавалі,  
Ішлі ў агонь, згаралі у агні.  
Цябе мы ў сэрцах нашых набліжалі,  
Каб сустрэцца, падганялі час,  
Усіх на ўсіх узроўнях абганялі,  
А ты, ты аддалялася ад нас.

---

ўхваляе тое, што ўбачыла, ці не пазнае зусім?

— Сапраўды, Язэп, гэта работа скульптара-мастака!..

З гэтага я зразумеў, што яны гаварылі пра мяне і, мабыць, неаднойчы абмяркоўвалі неадназначнасць гэтых паняццяў — «мастак» і «паэт», «мастак» і «скульптар», «мастак» і «жывапісец», Прайшло шмат гадоў, я на іх працягу выслухоўваў шмат кампліментаў, зведаў і хулу строгіх крытыкаў. Сярод дарагіх мне водгукаў на маю работу мне вельмі дарагая ацэнка, выказаная Вандай Антонаўнай Лявіцкай, дачкой Ядвігіна Ш., жонкай Язэпа Лёсіка. Магчыма, наогул нам, мастакам, асабліва імпануе меркаванне аб нас сапраўды прыгожай жанчыны, гарманічнай асобы. Інакш наўрад ці я і дагэтуль чуў бы ў думках той мілагучны і пераліўны голас, якім была выказана тады думка пра блізкі да заканчэння партрэт Я. Лёсіка маёй работы.

Я аднойчы вярнуўся да тэмы «няслава» і «слава», якія залежаць і ад нас, мастакоў, ад мастацтва. Ці заўсёды прысуд сучаснікаў бывае справядлівы? Здараецца, мы захапляемся і ўсхваляем куміра пад уплывам агульнага абагаўлення асобы, або па нейкіх карыслівых разліках, ці з боязі «адстаць ад часу».

— Здараецца, — пацвердзіў Я. Лёсік. — Здараецца, скульптар, і наадварот. Сабакі, якія сёння з выкрывальным брэхам нападаюць на нас, заўтра з глыбокай пашанай цалуюць нашы косці. Рознае бывае ў гэтым бурлівым і галаслівым жыцці...

Быў такі настрой у Я. Лёсіка, ці то было прароцтва, прадчуванне злога лёсу, сказаць цяпер я не магу. Тады толькі запомніў тую прыказку пра псоў, што мяняюць брэх лаянкі на пацалункі, здраджваюць сваім кумірам або ўсхваляюць ідалаў, каб потым каяцца над касцямі ахвяр. Ды і ў нашы часы тая выснова не так рэдка гучыць надта надзённа. Прынамсі, мне яна прыгадваецца цяпер часта.

Зрабіўшы партрэт Язэпа Юр'евіча, я падараваў яго яму. Як мне казалі, ён захоўваўся ў Лёсікавым доме. Шкадую, што не зрабіў тады дублю, каб захаваць для сябе ў майстэрні. Але ж і ў маёй майстэрні час па розных прычынах бязлітасна разбураў і знішчаў партрэты сучаснікаў як партрэты нібыта не вартых мастацтва «нацдэмаў» або «касмапалітаў», «ворагаў народа» або «здраднікаў». Потым новы час аднаўляе ў правах былых «злачынцаў» і аддае ім належнае. Але ж аднавіць партрэт такім, якім ён быў створаны з жывой натуры, скульптар не мае магчымасці. Работа «паводле памяці» — не адно і тое ж, што лепка з натуры.

А Язэп Лёсік быў гучна абгаўканы і абылганы раз'юшанымі палітыканамі. Яму не даравалі рэдагаванне газет нацыянальнага і дэмакратычнага напрамку, удзелу ў абвяшчэнні БНР у 1918 годзе, арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Ды і ягоныя навуковыя працы ў галіне лінгвістыкі ганьбілі за праявы ў іх так званай нацдэмаўшчыны. Вядома, што чакала чалавека з такім спісам «адхіленняў» ад вернага шляху. І чалавек, якога царскія ўлады праследавалі за рэвалюцыйную дзейнасць на беларускай нацыянальнай ніве, трапляе ў кіпцюры яжоўскіх катаў, зазнае ўсе пакуты, якія выпадаюць на долю абвешчаных палітычнымі ворагамі існуючага ладу.

Быў адзін дзень, калі я дагнаў Язэпа Юр'евіча недзе на беразе Свіслачы каля тагачаснага саду «Прафінтэрн» (цяпер імя М. Горкага) па дарозе да Я. Коласа. З-пад капелюша на мяне зірнуў блакітна-шэры позірк. «Па вашых слядах крочу», — сказаў я, не ведаючы з чаго пачаць размову. «Па пятах гналіся. Я адчуў. Наогул, мяне жыццё навучыла адчуваць таго, хто крочыць за мной па пятах», — сказаў ён.

Я ўжо ведаў тады, што Я. Лёсік меў за плячыма турму, ссылку, уцёкі. Вопыт змагара-падпольшчыка ладны! Ледзь не з 1905 года. І тады, ідучы ўздоўж масляна-срабрыстай Свіслачы, я падумаў: вось крочым мы разам — я і рэвалюцыянер, сапраўдны барацьбіт. А паглядзіць хто збоку: так сабе, звычайныя вандроўнікі-гараджане. Адзін чарнявы, імпульсіўны; другі — паважны, каржакаваты, самавіты, з выразна беларускім абліччам. Мне тады падумалася яшчэ, што веліч і звычайнасць у асобе пераплецены вельмі арганічна, але менавіта звычайнасць будзённага выгляду больш звяртае на сябе ўвагу. Як у Язэпа Юр'евіча.

Гэта павінен ведаць і помніць мастак-партрэтыст.

— Да некаторых таямніц выяўленчага мастацтва мяне далучаў мастак... нават вядомы мастак... Андрэй Рабушкін. Ведаеце такога? У рускім жывапісе ён вядомы сваімі сакавітымі мазкамі і перламутравым блакітам у настроях гарадскіх пейзажаў. Давялося нам з ім... Адным словам, давялося! І паспрачацца, і ад сэрца пагаманіць... Мабыць, ад яго я і даведаўся ўпершыню пра глыбокую розніцу паміж «мастаком» і «спецыялістам», — гаварыў мне Язэп Юр'евіч, нібы тлумачыў далей сказанае ў доме Коласа ля станка з глінай.

Ён сам тады мне падаўся сапраўдным мастаком, які мае сваё ўласнае ўяўленне пра чалавека і пра свет. Мастак у высокім грамадскім сэнсе слова.

І раптам...

Мне цяжка сёння гаварыць пра тое, ці верылі мы тады ва ўсе абвінавачванні, якія прад'яўляліся Я. Лёсіку. Ва ўсякім разе само гэтае штучнае словаўтварэнне «нацдэм» было зняважлівым і лаянкавым. Кляймо ганьбы! І з ім толькі і ўпаміналася само імя Язэпа Лёсіка на працягу паўстагоддзя.

А я ўспамінаў ветлівага чалавека ў акулярах разначынца, які памагае мне забіваць цвікі ў каркас, па-добраму ўсміхаецца «скульптару» — сыну балагола з Машканоў. Надзіва пранікнёным голасам кажа мне пра сабак, якія то брэшуць злосна на ахвяру, то цалуюць косці яе. Пытае, як у нас на Сенненшчыне вымаўляецца тое або іншае слова, бо мова нацыі спалучае лексічнае багацце з моўнай інтанацыйнай адметнасцю, маючы крыніцай народную гаворку, народнае маўленне.

Не буду паглыбляцца ў сферу мовазнаўства, бо не спецыяліст у ёй. У жыццёвых звадках і гістарычных зігзагах мы часам апускаліся да адкрытага нігілізму ў адносінах да мовы, збядняглі яе пад уплывам розных цемрашалаў. Але ў працэсе сучаснага беларускага Адраджэння навука яшчэ вернецца да спадчыны Я. Лёсіка. Яна дарагая Беларусі па сваёй уласнай каштоўнасці. І яшчэ тым, што пакінуў нам яе энцыклапедычна адукаваны чалавек, які прысвяціў сваё жыццё бескарысліваму служэнню народу.

«Бескарыслівы» — слова, якое ўжываецца часам і дзяжурна, як пахвальны эпітэт. У мяне, як у мастака (дазволю сказаць так пра самога сябе на дзевятым дзесятку жыцця), з тых даўніх дзён сустрэч з Я. Лёсікам засталося ўстойлівае ўражанне менавіта бескарыслівай натуры, апантана заглыбленай у справу свайго жыцця, сваіх грамадзянскіх інтарэсаў.

Сёння нібы праз прыцемкі часу ўглядаюся я ў мінулае, каб убачыць аблічча гэтага адданага свайму прызванню чалавека. Збіраюся ляпіць партрэт Язэпа Лёсіка. Другі. Праз амаль семдзесят гадоў. Ці атрымаецца?

Калі ён пазіраваў мне, бывала, паглядаў на мяне з-пад акуляраў, перапытваў: «Вы так мяркуеце?» — і пачынаў або пацвярджаць маю слушнасць, або спрачацца, абвяргаць мяне. А я слухаў яго і адчуваў, што далучаюся да светлага і справядлівага роздуму, да плыні каларытнай і маляўнічай мовы, на якой можна выказаць самую складаную філасофскую думку і спавядальны настрой усцешанай дружалюбствам душы.

**Заір АЗГУР.**



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

# КСЁНДЗ ГЛЯКОЎСКІ

лічнасці здымкаў. Але, на жаль, сплыло шмат часу, парушыліся людскія сувязі, адышлі ў нябыт многія сведкі, а тых, каго пашчасціла знайсці, жыццё навучыла адмоўчвацца.

Што ведае Я. Паплаўскі пра свайго стрыечнага дзеда? Нарадзіўся ў 1896 г. у Поразаве, што на Гродзеншчыне. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю. У перавыдадзенай сёлета кнізе А. Станкевіча «Родная мова ў святынях» чытаем:

«У Беласточчыне каля Нарвы ракі, недалёка ад станцыі Страблі, залажылі (1928 г.) новую парафію — Трычоўку. Першым пробашчам быў назначаны кс. др. Станіслаў Глякоўскі. Быў ён дагэтуль вікарыем у Ваўкавыску, дзе зжываўся духам з народам сваім і ўносіў у гушчы вясковыя свядамасць беларускую. З Ваўкавыска ксяндза Глякоўскага назначылі ў Трычоўку. Дзякуючы блізкаму суседству з Беластокам, навязаў кс. Глякоўскі зараз жа лучнасць з пабратымцам сваім кс. др. Й. Рэшэцем, прэфектам вучыцельскай семінарыі, каторы ад тэй пары аказываўся даволі частым госцем у Трычоўцы. Новы пробашч у аднасінах да сваіх людзей стаў адразу на правільным грунце, адзываючыся да іх у роднай беларускай мове. Ня трэба было доўга ламацца, бо на шчырасць свайго пробашча народ так жа шчыра адкрыў і душу сваю. Скора ўся парафія загаварыла з пробашчам па-беларуску. Здаровы, гаспадарскі розум асіліў усе перашкоды, асабліва дурны, фальшывы стыд. Пачалі адкрыта гаварыць па-беларуску, чытаць кніжкі, выпісваць газеты, пяяць народныя песні...

Парафіяне трычоўскія, бачучы, што пробашч іх мовай беларускай не ганьбуе і што яны свабодна могуць да яго адзывацца ў сваёй мове, казаў бы нарадзіліся на новы свет. «Ах, як добра, — казалі,—ня трэба ламаць языка, як думаеш, так і гаворыш!» Але прыйсці мусіла пара загаварыць ... так жа і ў касцёле... Што датыча конкордату, кс. Глякоўскі, рэч зразумелая, ня ў чым яго не нарушыў. Узамен польскай мовы ён нічога ня ўводзіў, беларуская мова была толькі дапаўненнем у набажэнстве...

Ксёндз Глякоўскі, будучы сам з Поразава, ня ўспеў адразу запазнацца як належа з тамтэйшаю трычоўскай гаворкай беларускай мовы і дзеля гэтага ўва ўсіх прамовах, выступленнях выручаўся кс. Рэшэцем, сваім госцем, каторы будучы з Беласточчыны, добра знаў усе адценкі трычоўскай беларушчыны і мог умела і ўдала прагаварыць да мас народных».

Увосень 1929 г. кс. Глякоўскі быў прызначаны ў Вільню на прэфекта. Там пасябраваў з мастаком Пётрам Сергіевічам. Цікава, што Я. Паплаўскі, ужо студэнтам з'ездзіўшы пагасцяваць да сваіх бацькоў у Поразава, знайшоў на гарышчы бабулінай хаты дзве цудам ацалелыя унікальныя карціны з подпісамі мастакоў: невядомае палатно Я. Драздовіча з выявою Хрыста і партрэт кс. Глякоўскага работы П. Сергіевіча. (Карціны перадаў у Дзяржаўны мастацкі музей). Пісьменнік У. Ягоўдзік па просьбе Я. Паплаўскага тады ж звярнуўся да Зоські Верас з пытаннем пра лёс ксяндза. Вось што адказала яна ў паштоўцы:

«Пытаецеся пра кс. Глякоўскага? Я яго добра ведала і сяння стаіць яго постаць перад вачамі. Гэта добры шчыры быў беларус. Сардэчна клапаціўся аб беларускіх дзетках. Калі я ўжо не змагла далей выдаваць «Заранку» — не хапіла сілы на барацьбу з безграшоўем, а падтрымкі ніадкуль не прадбачылася, — ён прапанаваў за яго ўласныя сродкі выдаваць хоць што маленькае сьціплае для беларускіх дзетак, і прасіў яму памагчы. Так пачалі выходзіць «Пралескі» — у 1932-м годзе. Я іх рэдагавала нядоўга — усяго 7 нумароў зрабіла, бо тады ўжо інтэнсіўна працавала Т-ва «Пчала», пачала выходзіць «Беларуская Борць», і я не мела часу. Кс. Глякоўскі знайшоў сабе новую рэдактарку, але «Пралескі» ўжо доўга не ўтрымаліся...»

Сябраваў кс. Глякоўскі і з Максімам Танкам, нягледзячы на зусім супрацьлеглыя ідэйныя перакананні. Разам з Машарам, хрысціянскім паэтам, ды Найдзюком рэдагаваў часопіс «Беларуская думка». Складаў вершы, займаўся перакладамі (ведаў 17 моў), стажыраваўся пры Папе Рымскім, напісаў не адну доктарскую дысертацыю...

Ад пляменніка Глякоўскага, Міхала Гаеўскага - Кабыляка (на той час маладзенькага арганіста), які цяпер жыве ў Беластоку, Я. Паплаўскі даведаўся, што ў гады Айчыннай вайны С. Глякоўскі, як і ксяндзы Гадлеўскі ды Малец, служыў у мінскім Чырвоным касцёле. Пасля няўдалага замаху на Кубэ акупацыйныя ўлады запатрабавалі ад святароў нейкай публічнай акцыі, накшталт прысягі на вернасць Германіі, але тыя адмовіліся. Пагражала расправа. Ксяндзам прапанавалі таемна пакінуць горад і пайсці да партызанаў. Глякоўскі нібыта мовіў: «Хай ужо будзе, як Бог дасць». Яго разам з Гадлеўскім забралі ў гестапа, толькі й паспеў, што перадаць пляменніку-арганісту ключы «ад бюрка», дзе былі ўсе паперы—і доктарскія дысертацыі, і вершы, і фатаграфіі, і кнігі... Архіў кс. Глякоўскага быў перапраўлены ў Вільню (магчыма, як мяркуе гісторык А. Сідарэвіч, да таго ж А. Станкевіча). Немцы кагосьці з арыштаваных ксяндзоў нібыта расстралялі, кагосьці скінулі з цягніка...

Больш дакладных звестак пра лёс С. Глякоўскага няма. Можа, штосьці пэўнае высветліцца з кнігі пра кс. Глякоўскага, якая рыхтуецца да выдання ў Ватыкане.

Разам з Я. Паплаўскім мы звяртаемся да ўсіх, хто можа памагчы дапоўніць згадкі пра Станіслава Глякоўскага, безумоўна яркую постаць у беларускай культуры, хто мае дакументы пра тыя драматычныя і супярэчлівыя часы нашай гісторыі, хто можа ўдакладніць інфармацыю пра людзей, адлюстраваных на здымках, якія мы выбралі для сённяшняй публікацыі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

**Публікацыя здымкаў Я. ПАПЛАЎСКАГА.**



Невядомае фота спевака М. ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА.



Кіраўнікі БХД («Хадэсіі») беларускія ксяндзы ТАТАРЫНОВІЧ (стаіць, злева), **ГЛЯКОЎСКІ (стаіць, справа)**, **СТАНКЕВІЧ (сядзіць, крайні злева)**, ГАДЛЕЎСКІ (сядзіць, справа) ды уніяцкі святар з Украіны.



У плябані пасля канцэрта хору Шырмы (Вільня). Другі рад, злева направа: дзеяч ТБШ А. ТРЭПКА; выкладчык Віленскай духоўнай семінарыі сенатар В. БАГДАНОВІЧ; кампазітар К. ГАЛКОЎСКІ; М. ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ, Р. ШЫРМА, А. ЛУЦКЕВІЧ. Трэці рад: другі злева М. ТАНК, другі справа С. ГЛЯКОЎСКІ.



20-я гады, Поразава: С. ГЛЯКОЎСКІ з сёстрамі Магдаленай (у цэнтры) ды Браніславай.



Скаўцкі лагер. Прэфект Віленскай гімназіі кс. ГЛЯКОЎСКІ (у цэнтры крайні справа) з выкладчыкамі сярод беларускіх дзяцей.



30-я гады. Беларуская пілігрымка да Кальварыі. У апошнім радзе ксяндзы ГЛЯКОЎСКІ, ГАДЛЕЎСКІ і інш.

